# РЭПРЭСІІ СУПРАЦЬ СЯЛЯНСТВА Ў 30-Я ГАДЫ

## *1. АХВЯРЫ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ*

Найбольш значным мерапрыемствам савецкіх уладаў па вынішчэньні беларускага сялянства сталася гэтак званая калектывізацыя — перавод сельскай гаспадаркі з індывідуальнай на калектыўную форму гаспадараньня. На тэрыторыі Ўсходняй Беларусі пасьля ўсталяваньня савецкай улады ў разьвіцьці сельскай гаспадаркі перавага была аддадзеная «хутарской» форме, калі асноўнае дзяржаўнае фінансаваньне накіроўвалася на ўмацаваньне невялікіх прыватных гаспадарак. У БССР актыўным распрацоўнікам і праваднікoм такой палітыкі быў наркам земляробства Зьміцер Прышчэпаў, прозьвішча якога дало назву гэтай палітыцы — «прышчэпаўшчына». Але магчымасьць самастойнага эканамічнага разьвіцьця была для БССР вельмі ўмоўнай. Пасьля разгрому «правага ўхілу» кіраўніцтва ВКП(б) адкінула ўсе іншыя варыянты разьвіцьця сельскай гаспадаркі, акрамя калектыўнага. Прыватныя ўладальнікі зямлі былі паступова залічаныя ў кулакі і ворагі савецкай улады.

У 1925 г. галоўным паказчыкам у вызначэньні сацыяльнага становішча селяніна было ягонае маёмаснае становішча. Сялянства падзялялася на тры групы: «беднякоў, серараднякоў і кулакоў». Да беднякоў адносілі гаспадароў, якія ня мелі каня, ня мелі хатняй жывёлы, ня мелі ўласных пасеваў ці сеялі ў межах ад 0,1 да 2 дзесяцін. Серадняцкімі лічыліся гаспадаркі, што апрацоўвалі ад 2 да 6 дзесяцін пасеву, мелі аднаго ці двух коней, просты сельскагаспадарчы інвэнтар. Некаторыя серадняцкія гаспадаркі вы-



карыстоўвалі наёмную працоўную сілу, але пэрыядычна. Да кулацкіх адносілі гаспадаркі, якія валодалі колькасьцю пахатнай зямлі, большай за сярэднія нормы ў дадзенай мясцовасьці, мелі трох ці болей коней, буйную рагатую жывёлу, стала карысталіся наёмнай працоўнай сілай.

Заможная сялянская гаспадарка мела прыбытак з трох асноўных накірункаў сваёй гаспадарчай дзейнасьці: са здачы ў арэнду сельскагаспадарчага інвэнтару, пазычэньня пад працэнты грошай і продажу сваёй сельскагаспадарчай прадукцыі. Лічылася, што прыбытак такіх гаспадарак у БССР быў у 4,6 разы вышэйшы, чым у беднякоў, і ў 2,3 разы вышэйшы за серараднякоў.[144]

Ва ўмовах, калі дасягненьне ня толькі сацыяльнай, але і эканамічнай роўнасьці вызначалася асноўным прынцыпам дзяржаўнай палітыкі, рост багацьця сялянства разглядаўся як адмоўная грамадзкая зьява, пазьбегнуць якой меркавалася з дапамогай калектывізацыі. У калгасе ўсе павінны быць роўныя: і паводле прыбытку на кожнага члена сям'і, і паводле валоданьня хатняй маёмасьцю. Таму ў дзяржаўнай палітыцы ў 1929 г. вызначыліся наступныя прыярытэты: эканамічная і палітычная падтрымка бедняка, дапамога серараднякам, памеры якой вызначаюцца ў залежнасьці ад тых ці іншых абставінаў, вынішчэньне заможнага сялянства «як клясы». У лютым 1929 г. ЦВК і СНК СССР зацьвердзілі «Положение о едином сельскохозяйственном налоге». Беднякі ад падаткаў вызваляліся, кулакі абкладаліся да поўнага банкруцтва.

Але эканамічнае вынішчэньне кулака было марудным. 27 сьнежня 1929 г. І.Сталін выступіў з прамовай на навуковай канфэрэнцыі аграрнікаў-марксістаў: «Теперь у нас имеется достаточная материальная база для того, чтобы ударить по кулачеству, сломить его сопротивление, ликвидировать его как класс и заменить его производство производством колхозов и совхозов»,[145] — так вызначыў ён новае стаўленьне да заможных сялян. 1 лютага 1930 г. ЦВК і СНК СССР прыняў пастанову «О мероприятиях по укреплению социалистического переустрой-

[144] *Осмоловский В.П. Коллективизация в Белорусской ССР. Опыт и уроки. — Мн., 1991. С.10.*

[145] *Сталин И.В. Вопросы ленинизма. — М., 1952. С.324.*

ства сельского хозяйства в районах сплошной коллективизации и по борьбе с кулачеством».[146] Згодна прапановам правадыра, сяляне пазбаўляліся права арэнды і наёму рабочай сілы, у дачыненьні да іх дазвалялася выкарыстоўваць меры рэпрэсіяў: канфіскацыю маёмасьці, высяленьне ў «аддаленыя мясцовасьці СССР».

Была прапанаваная новая «клясыфікацыя кулака». ЦК ВКП(б) у пастанове «О мероприятиях по ликвидации кулацких хозяйств в районах сплошной коллективизации» параіў падзяліць заможныя сялянскія гаспадаркі на тры катэгорыі. Да першай адносіліся эканамічна моцныя гаспадаркі, гаспадары якіх удзельнічалі ў «контаррэвалюцыйнай барацьбе супраць савецкай улады». Да гэтай групы прымяняліся арышты, канфіскацыя маёмасьці, высяленьне сям'і, расстрэл гаспадара.

Другую катэгорыю складалі таксама моцныя гаспадаркі, якія выкарыстоўвалі наёмную рабочую сілу. У гэтых гаспадароў забіралася частка маёмасьці, яны маглі быць прынятыя ў калгас з тэрмінам выпрабаваньня ў 2-3 гады.

«Раскулачваньне», якое стала асноўным спадарожнікам працэсу калектывізацыі, вялося плянава. У пастанове ЦК ВКП(б) ад 30 студзеня 1930 г. вызначаліся канкрэтныя нормы «раскулачваньня» — ня болей за 3-5% усіх сялянскіх гаспадарак раёну. Для раёнаў суцэльнай калектывізацыі (Паўночны Каўказ, Ніжняя і Сярэдняя Волга, Цэнтральна-Чарназемная вобласьць, Урал, Сібір, Беларусь і Казахстан) у пастанове вызначаліся лічбы «ограничительных контингентов», якія падлягалі высылцы ў аддаленыя раёны СССР: 60 тыс. гаспадарак першай катэгорыі і 150 тыс. — другой.[147]

Зімой 1930 г. у партыйным і савецкім кіраўніцтве вызначылася лінія на перавыкананьне выдадзеных «норм», «кантрольных лічбаў», «заданьняў». Масавыя рэпрэсіі супраць сялянства распачаліся ў лютым 1930 г. Былі задзейнічаныя дзясяткі тысяч партыйных, савецкіх, гаспадарчых работнікаў,

[146] *Врублевский А.П., Протько Т.С. Из истории репрессий против белорусского крестьянства 1929—1934 гг. — Мн., 1992. С.49.*

[147] *Урок дает история. — М., 1989. С.165.*



мабілізаваныя гужавы і чыгуначны транспарт. Ужываліся «сакрэтны» ці «начны» мэтады «раскулачваньня», практыкавалася «ліквідацыя кулака» ў тры дні, «пад мяцёлку».[148]

На травень 1930 г. у БССР па ўсіх катэгорыях было «раскулачана» 15629 гаспадарак, як лічылася, каля 50% агульнай колькасьці кулацкіх гаспадарак.[149] Ужо на XIII зьезьдзе КП(б)Б (травень-чэрвень 1930 г.) вызначалася, што колькасьць кулакоў у БССР завысілі на 2393 гаспадаркі.

Праца па высяленьні з БССР сялянскіх сем'яў мела дзьве задачы: умацаваньне памежных раёнаў і высяленьне ў тылавыя раёны найбольш заможных як у мінулым, так і на момант калектывізацыі, сем'яў. Паводле пастановы Тройкі Паўнамоцнага Прадстаўніцтва ОГПУ па БССР у 1930 г. высяленьню з Усходняй Беларусі падлягала 1931 сям'я з арыентацыйнай колькасьцю 8208 чалавек — з разьліку 4 чалавекі на сям'ю ў сярэднім.*[150] З памежных акругаў — Менскай, Полацкай, Бабруйскай і Мазырскай — меркавалася вывезьці 59,2% усіх кулакоў — 1143 сям'і, з астатніх 19 памежных раёнаў — 463 сям'і (24%).

Намечаныя Тройкай сем'і былі выселеныя. 5519 чалавек былі пагружаныя ў тры з паловай (!) эшалёны, якія складаліся з 141 людзкіх і 34 багажных вагонаў. «Недогруз 1 1/2 эшелонов (77 людских вагонов) произошел вследствие большого отсева, получившегося за счет стариков, детей и отчасти больных, оставшихся на месте. Лишнее количество загруженных багажных вагонов происходило исключительно из — за сравнительно большой нормы разрешенного к провозу каждой семьей багажа (30 пудов на семью — запас трехмесячного продовольствия)»,[151] — рапартавалі арганізатары перавозкі ў Маскву ў Асобы аддзел ОГПУ.

Пачатак масавай калектывізацыі выклікаў актыўныя ўзброеныя выступленьні. Толькі за чэрвень 1930 г. паводле дадзеных ГПУ на тэрыторыі Ўсходняй Беларусі мелі месца 64 тэрарыстычных акты — 3 забойствы, 4 раненьні, 3 замахі на забойства, 6 выпадкаў

*147 Урок дает история. — М., 1989. С.168.*

*148 Гісторыя Беларускай ССР. Т.3. С.414.*

*149 НА РБ Ф.4. Воп 21, спр.250, арк.2.*

*150 Тамсама, воп.21, спр.250, арк.2.*

зьбіваньня актывістаў, 48 падпалаў.[152] Аб'ектамі тэрарыстычных актаў былі ў асноўным калгасныя актывісты. ГПУ арыштавала за месяц 32 чалавекі.[153] У жніўні таго ж года было зарэстравана 26 падпалаў, 3 забойствы, арыштавана ўжо 52 чалавекі.[154]

Калгасы, створаныя зь бядняцкіх гаспадарак, звычайна прымусова, амаль адразу пачалі развальвацца. Тады кіраўніцтва СССР зрабіла адмысловы манэўр — 2 сакавіка 1930 г. у «Правде» быў надрукаваны артыкул І.Сталіна «Головокружение от успехов», дзе былі асуджаныя прымусовыя мэтады калектывізацыі. Быў выдадзены шэраг пастановаў, якія эканамічна заахвочвалі сялян уступаць у калгасы, павялічвалі падаткаабкладаньне прыватных уласнікаў зямлі. Але гэта мала чым дапамагала. Летам 1930 г. працэнт калектывізацыі ў БССР з 58% скараціўся да 11,1%.[155]

З пачаткам калектывізацыі сяляне латыскай, літоўскай і асабліва польскай нацыянальнасьці пачалі выказваць жаданьне зьехаць з СССР. Гэтак, у Магілёўскай акрузе 6 студзеня 1930 г. 17 чалавек падалі заяву аб выезьдзе з усёй сям'ёй за межы Савецкага Саюзу. Агульная колькасьць членаў сем'яў складала 46 чал.[156] «На тэрыторыі БССР недапушчальная для нас палітычна і эканамічна пэрспэктыва эміграцыйнага руху значных мас нацыянальнага сялянства. За апошні час яна пачынае ўжо цяпер рэальна выяўляцца па латыскіх калёніях і польскім насельніцтве. Сярод польнасельніцтва за апошні час пачынаюцца злосныя гаворкі аб адыходзе з усёй маёмасьцю ў Польшчу. Сярод нямецкіх калёніяў таксама існуюць асобныя прыкметы эміграцыйных настрояў»,[157] — так пра становішча сярод нацменшасьцяў інфармаваў начальнік акруговых аддзелаў ГПУ ЦК КП(б)Б.

Меры, прапанаваныя спэцслужбамі, былі адэкватныя: «разлагаць агентурнымі мерамі эміграцыйныя памкненьні», «узмацніць і палепшыць агентурна-асьведамляльную сетку па нацкалёніях і польнасельніцтве», а таксама «ва ўсіх выпадках

[152] *НА РБ Ф.4, воп.21, спр.249, арк.68.*
[153] *Тамсама, арк.82.*
[154] *Тамсама, арк.112.*
[155] *Гісторыя Беларускай ССР. Т.3. С.422.*
[156] *НА РБ Ф.4. Воп.21, спр.249, арк.13.*
[157] *Тамсама, арк.11.*



выяўленьня настрояў эміграцыйнага характару, перасякаць іх на карані, робячы арышты кулакоў і актыўнага антысавецкага элемэнту без усялякага папярэдняга ўзгадненьня з ПП ОГПУ па БВА».[158]

У пачатку 1930 г. рашэньнем Камісіі ЦК КП(б)Б па разьмеркаваньні рабочых на працу па «калгасным будаўніцтве» было накіравана 600 чалавек рабочых з Усходняй Беларусі і 100 рабочых зь Ніжняга Ноўгараду — гэтак званых «дваццаціпяцітысячнікаў». Яны былі разьмеркаваныя да працы ў акруговых сэкцыях пры акруговых паляводчых і малочна-жывёлагадоўчых саюзах (32 чал.), у раёнах суцэльнай калектывізацыі — у Райкалгассаюзах (62 чал. у 31 раёне), старшынямі саматужных аб'яднаньняў і агракалгасаб'яднаньняў (119 чал.), старшынямі буйных калгасаў, сакратарамі ячэяк, кіраўнікамі вытворчых прадпрыемстваў і загадчыкамі асобных галін гаспадарак (220 чал.), у Паляводсаюзе (81 чал.) і Жывёлагадоўчым саюзе (79 чал.), у Садоваагародніцкім саюзе (1 чал.). Акрамя таго, па лініі Белсельбанка — старшынямі і намесьнікамі старшыняў раённых крэдытных таварыстваў накіроўвалася 20 рабочых. Рабочыя зь Ніжняга Ноўгараду атрымалі месцы ў акруговых Калгассаюзах, Паляводсаюзах і Малжывёлсаюзах у 5-ці акругах (15 чал.), сталі старшынямі і членамі калгасаў (29 чал.), старшынямі буйных калгасаў (44 чал.), займалі пасады ў агракамбінатах (12 чал.).

Рабочыя, адабраныя на працу ў калгасы, атрымлівалі на сваіх прадпрыемствах водпуск з захаваньнем сярэдняга заробку ў часнавучаньня па падрыхтоўцы іх да працы ў калгасах. Выдаткі на праезд, кошт праезду і правозу маёмасьці да месца працы, а таксама сутачныя і аднаразовую дапамогу для саміх рабочых і членаў іх сем'яў (нараўне з рабочымі) — аплочвалі прадпрыемствы, якія рабочых адабралі. Рабочыя, калі іх заробак на старым месцы перавышаў аплату працы на новым, 1 год атрымлівалі даплату ў памеры розьніцы.[159]

Для ўмацаваньня сельскіх Саветаў 5 лютага 1930 г. сакратарыят ЦК КП(б)Б накіраваў сюды 200 актывістаў гарадзкіх Саве-

[158] *НА РБ Ф.4. Воп.21, спр.249, арк.11 адв.*
[159] *Тамсама, воп.21, спр.193, арк.232—333.*

таў.[160] Для працы на пасадах сакратароў сельсаветаў было адабрана 176 камсамольцаў.[161]

Але ўзмацненьне кіраўніцтва калектыўнай сельскай гаспадаркі рабочымі мала чым дапамагло ў вырашэньні сельскагаспадарчых праблем. Таму ў ліпені-верасьні 1930 г. у калгасы БССР для ўдзелу ў чарговых сельскагаспадарчых кампаніях (уборцы, восеньскай сяўбе) было накіравана 6,3 тыс. чалавек, не занятых у сельскагаспадарчай вытворчасьці.[162] Шырока вядомая практыка дапамогі калгасам з боку гораду ўвайшла ў практыку менавіта ў першыя гады калектывізацыі.

Аднак у накіраваных на вёску рабочых не было веданьня спэцыфікі сельскагаспадарчай вытворчасьці, вясковага жыцьця. Кароткатэрміновыя курсы, на якіх яны навучаліся перад адпраўкай, значных вынікаў не давалі. Таму новыя кіраўнікі калгасаў цьвёрда прытрымліваліся дырэктваў зьверху, бачачы ў гэтым магчымасьць схаваць сваё няведаньне сялянскай справы. Для многіх зь іх тут усё было чужое, нецікавае, яны марылі вярнуцца на былую працу, на сваю радзіму.

Селянін вёскі Скакуноўшчына Бешанковіцкага раёну С.Жыгала пісаў у сваім дзёньніку ў 1932 годзе: «Так глупо государство проводит планы нашей индустрии, дает доверие людям совершенно безрассудным и малопонимающим. Сверху дают задание выполнить план, а внизу не знают, как его выполнить — и ставят все вверх ногами. Доводят план пашни, не зная почву земли (что тут может родить) и сей, хоть помри, и к сроку тому, который они укажут, не усматривая на климат — мороз, дождь, грязь — все равно паши. А сможет ли тогда зародить хлеб на наших полях? И останется виноватым тот, кто пахал. Люди засели во власти внизу совершенно глупые. Кто записал себя на бумаге, что партийный — ему доверие. Но эти люди совсем не подходят к партии, записались в нее, чтобы только свои интересы защитить. Улучшить быт трудового народа — над этим и не задумываются. Только и знают ездить по

[160] *Та́мсама, воп.3, спр.34, арк.564.*
[161] *Правда. 1930, 5 сакавіка.*
[162] *Нарысы гісторыі Беларусі. Ч.2. — Мн., 1995. С.168.*



деревням, спрашивая выполнение плана, и угрожают тюрьмой, которая страшней панского бича».[163]

За ўсе хібы, як гэта павялося ў савецкай дзяржаве ад самага яе заснаваньня, расплочваліся «ворагі». У сакавіку 1931 г. быў ужо «раскулачаны» прыкладна 1% ад агульнага ліку гаспадарак БССР — 7778 гаспадарак. У сялян адабрана скаціны і інвэнтару на 6 305 086 рублёў 98 капеек — у сярэднім па 836 рублёў з гаспадаркі.[164] Забраўшы такое невялікае багацьце ў кулакоў, спэцслужбы канстатавалі: у раёнах вядзецца дрэнны ўлік сканфіскаванай маёмасьці. «По нашей линии мы дали на места распоряжения о выявлении дефектов в учете, рациональном распределении и использовании изъятого у кулаков имущества»,[165] — дакладаў кіраўнік Паўнамоцнага Прадстаўніцтва ОГПУ па БВА Рапапорт.

Рэпрэсаваньне сялянства ўзрастала разам з пашырэньнем калектывізацыі. Заклік Сталіна «шукаць ворага ў калгасах» у кіраўніцтва БССР знайшоў водгук. Гэтак, у 1932 г. супрацоўнікі Капыльскага райвыканкама выкрылі 20 чал., што «вели разнузданную агитацию против проведения политикохозяйственных компаний»[166]. За год тут зьнятыя з пасадаў і аддадзеныя пад суд «за искривление классовой линии и сращение с кулацко-зажиточным элементом» 15 старшыняў сельскіх саветаў,[167] 37 членаў сельскіх саветаў.[168]

У кулакі і падкулачнікі запісвалі ўсіх, хто жыў заможна, або выступаў з крытыкай калгаснага жыцьця. На пачатку 1933 году існавала ўжо цэлая сыстэма органаў, што ажыцьцяўляла «чыстку» сялянства ад «клясава-варожых элемэнтаў». Першаснымі і бадай галоўнымі для селяніна ў гэтай сыстэме былі праўленьні калгасаў, якія выкрывалі кулакоў і праводзілі «раскулачваньне». Ім непасрэдна дапамагалі члены сельскіх саветаў, калгасных парт'ячэек. Кантралявалі іх дзеяньні раённыя камітэты КП(б)Б, райвыканкамы, мясцовыя арганізацыі Рабоча-Сялянскай інспэкцыі. У студзені 1933 г. «для организационно-хозяйственного и политического укрепления колхозов» пры МТС, у

[163] *Народная газета, 1996, 10—12 лютага, с.8.*
[164] *НА РБ Ф.4. Воп.21, спр.250, арк.7.*
[165] *Тамсама, арк.8.*
[166] *НА РБ Ф.6. Воп.1, спр.2860, арк.58.*
[167] *Тамсама, арк.62.*
[168] *Тамсама, арк.205.*

саўгасах і на транспарце былі створаныя палітаддзелы, якія займаліся падборам кіраўнікоў, ачысткай калгасаў ад «варожых элемэнтаў». Палітаддзелы дзейнічалі два гады і выдавалі 65 газэт, якія выходзілі накладам у тысячу экзэмпляраў кожная.[169]

Але агітацыя, нават добра растыражаваная, мала дапамагала: сяляне ўпарта трымаліся свайго ладу жыцьця. Таму галоўнымі ў барацьбе з кулакамі сталі органы ОГПУ-НКВД. Пэўныя вынікі іх працы былі падведзеныя ў лютым 1933 г. на V аб'яднаным плenуме ЦК і ЦКК КП(б)Б. Старшыня ГПУ Беларусі Л.Закоўскі, які выступіў тут, паведаміў прыстуным, што толькі за 10 месяцаў — з траўня 1932 па люты 1933 гг. «из белорусской деревни было изъято до 30 тыс. контрреволюционных, кулацких, бандитских политических элементов».[170]

З 5 па 15 траўня 1933 г. адбылося масавае высяленьне сялянаў за межы Ўсходняй Беларусі. Высяленьне закранала 8316 сем'яў (30410 чалавек) і 243 «адзіночкі».[171]

Але высяленьне пачалося раней — вясной 1931 года. З 1 па 14 чэрвеня з БССР штодзённа адпраўляліся эшалёны на Ўрал з высланымі кулакамі (5 тыс. сем'яў). Дзяцей да 10 гадоў і старых (з 65 гадоў) дазвалялася пакідаць дома ў родных. Сялянскія сем'і, у якіх не было працаздольных мужчын, высылаць не меркавалася. Спэцслужбы БССР мелі плян высылкі, кантралявалі яго выкананьне. Згодна з плянам, падлягала высылцы яшчэ 5564 сям'і — 22670 чал., якіх трэба было даставіць на адпаведныя станцыі беларускай чыгункі (Гл. табл. 11).

У пачатку 1933 г. савецкая карная сыстэма толькі пачынала набіраць сваю вусьцішную моц. Турмы Ўсходняй Беларусі былі перапоўненыя прыкладна ў 3,5 разы. 4 лютага 1933 г. паводле загаду бюро ЦК КП(б)Б органы ОГПУ БССР правялі тэлеграфнае апытаньне 8 турмаў, што знаходзіліся ў БССР (у Віцебску, Магілёве, Гомелі, Воршы, Бабруйску, Полацку і Менску). Высьветлілася, што ў турмах, якія разьлічаныя на 6293 чалавекі, знаходзіцца 21520 чал. На 7 лютага вязьняў стала ўжо 22352, паводле стану на 10 лютага — 23544.[172]

[169] *Врублевский А.П., Протько Т.С. Указ. соч. С.60.*
[170] *НА РБ Ф.4. Воп.20, спр.95, арк.7.*
[171] *Архіў МБ РФ.*
[172] *НА РБ Ф.4. Воп.21, спр.391, арк.188, 200.*



**Табліца 11. ВЫСЯЛЕНЬНЕ СЯЛЯНАЎ З БССР НА ЎРАЛ ЛЕТАМ 1931 Г.***

*1 — Станцыя беларускай чыгункі, 2 — Колькасьць сем'яў, 3 — Колькасьць людзей.*

| 1 | 2 | 3 |
|---|---|---|
| Менск | 730 | 1480 |
| Фаніпаль | 68 | 286 |
| Барысаў | 387 | 1448 |
| Талачын | 278 | 1113 |
| Ворша | 365 | 1660 |
| Лепель | 213 | 851 |
| Полацак | 256 | 1024 |
| Дрыса | 151 | 606 |
| Пухавічы | 298 | 1192 |
| Віцебск | 572 | 2290 |
| Слуцак | 382 | 1529 |
| Старыя Дарогі | 116 | 465 |
| Бабруйск | 250 | 908 |
| Жлобін | 158 | 734 |
| Быхаў | 246 | 980 |
| Магілёў | 258 | 1033 |
| Крычаў | 403 | 1615 |
| Камунары | 117 | 710 |
| Жыткавічы | 35 | 141 |
| Калінкавічы | 198 | 794 |
| Рэчыца | 253 | 1013 |
| Гомель | 231 | 926 |
| **Разам:** | **5664** | **22670** |

* *Архіў МБ РФ.*

Запрацавала сыстэма савецкіх канцэнтрацыйных лягераў. 11 сакавіка 1933 г. камісарыят юстыцыі паведамляў у ЦК КП(б)Б: «Па лініі ОГПУ БССР атрыманыя 3 нарады на 6300 асобаў для адпраўкі ў канцлягеры, зь якіх першая партыя ў 1300 асобаў пад-

рыхтаваная і будзе адпраўленая 15.02, а другая партыя ў 3000 асобаў падрыхтоўваецца для адпраўкі на 20.02. Трэцяя партыя ў 2000 асобаў будзе таксама адпраўленая прыблізна каля 25.02».[173] У чэрвені 1933 г. у турмах БССР засталося 12 тыс. вязьняў.[174] 27 кастрычніка 1934 г. пастановай ЦВК і СНК СССР папраўча — працоўныя лягеры камісарыяту юстыцыі саюзных рэспублік перадаваліся ў сыстэму НКВД СССР. На 20 красавіка 1935 г. колькасьць зьняволеных у БССР склала «в закрытых местах заключения 8331 чел., в колониях — 3930 чел.»[175]

23 сакавіка 1933 г. за № 42 выдадзены «асабліва сакрэтны цыркуляр ОГПУ», у якім усім Паўнамоцным Прадстаўніцтвам забаранялася «применение ссылки в отношении дряхлых или инвалидных, или калек, стариков. Каждый старик, осуждаемый в лагерь, должен быть мед. освидетельствован».[176]

Страты, якія панесла беларуская вёска ў выніку калектывізацыі, і да сёньня дакладна не падлічаныя. Мяркуецца, што разбураныя ў выніку працэсу «раскулачваньня» былі ад 4% (афіцыйная вэрсія) да 15% сялянскіх гаспадарак — ад 35 да 95,5 тыс. сем'яў. Зь Беларусі, асабліва з усходняй яе часткі, вывезьлі ці проста зьнішчылі усе заможныя гаспадаркі. Але лепей жыць у калгасе ня сталі. Вышэйзгаданы селянін вёскі Скакуноўшчына Бешанковіцкага раёну С.Жыгала пісаў у сваім дзёньніку: «5 июля. Положение в колхозе дурное, ибо большинство вступили, не желая и ненавидя его. Никто не дорожит ничем. Ведется хозяйство к нищете... 23 февраля 1932 г. Улучшить свое положение никак нельзя. Домашняя обстановка пропадает, все гниет, крыши рвутся, починить некогда и нет материалу. Сегодня нет даже средств накормить корову и две овцы, немотря на то, что целый год работал в артели безотрывочно. Все сдай, все пропадай, хоть последнюю рубашку сними, а сам останься ни с чем... 18 марта 1934 г. Мысли рассеянные, тяжесть, грусть, тоска. Кажется, лег бы спать и спал бы всю жизнь, ничего не думал бы. Невыносимое мученье — целый год работаю, не зная праздника, а хлеба мало, пополам с

[173] *НА РБ Ф.4. Воп.21, спр.391, арк.211.*
[174] *Тамсама, воп.3, спр.135, арк.62.*
[175] *Цэнтральны Архіў Міністэрства бясьпекі РФ.*
[176] *Тамсама.*



мякиной, жиров нет, яси постное. Державе сдай хлеб, бульбу, мясо, молоко, а тут еще денежные платежи. Налог, штрафовка, самообкладания, культурный сбор — последнее приходится продавать, сам ходишь голый, на свои потребы нет денег. Земли опустошили льном, хлеба сеем мало, и тот не родит — вот и голод. Так долго жить не в силах, люди будут умирать, голодные, измученные. Земля останется невспаханная, может застигнуть голод во всей стране. Потеряна вера, что мы придем к легкой жизни, как говорилось при завоевании свободы. Нет надежды, что Сталин говорил на последнем съезде (довести колхозника заможником) — все хлусня, намешка. Колхозник становится не заможником, а голодным... 20 мая. Ничего лучшего нельзя дождаться, с каждым годом все хуже и и хуже. Нет свободы слова. Говори так, как они диктуют — дурацкое, грубое диктование. Да будь она проклята, такая свобода, когда последнюю шкуру с тебя стянут, на каждом шагу обман... Сыпятся крестьяне, ползут в разные стороны, как мурашки, — в Сибирь, Украину, Поволжье, Урал и обратно. Лучшей жизни нигде не находят — везде голод. Свое все решают, продают, по дороге расходуют. Остаются голодными. Средств нет никаких, бросают своих детей. На станциях — плач детей. Ужас, на который правительство совершенно не обращает внимание, а все строит на людских костях фабрики, заводы, выполняет дурацкие планы на скелетах рабочих и крестьян».[177]

Гэты своеасаблівы летапіс калектывізацыі складаўся не для друку — у той час ён быў добрай падставай для абвінавачаньня ў антысавецкай дзейнасьці. Таму і схаваў яго гаспадар у падпечак, дзе ён праляжаў да нашых дзён.

Чалавек пісаў пра тое, што бачыў. Дакумэнты пацьвярджаюць, што пісаў праўдзіва. Матэрыялы, што захаваліся ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь (былы архіў ЦК КПБ) гавораць пра тое, што ўлік апрацаванай і неапрацаванай зямлі ў калгасах быў вельмі дрэнны. Часта калгаснае кіраўніцтва глядзела скрозь пальцы на тое, што землі апрацоўваюцца некалгасьнікамі. Гэтак, напрыклад, у калгасах «1 Мая» і «Чырвоны Араты» Чачэрскага раёну 52 адзінаасобнікі садзілі азімыя на калгаснай зямлі. [178] Але калі ўво-

[177] *Народная газета, 1996, 10—12 лютага.*
[178] *НА РБ Ф.4. Воп.28, спр.15, арк.157.*

сень 1934 г. калгасам трэба было выканаць плян, ураджай канфіскавалі, а саміх парушальнікаў аддалі пад суд.

Запазычанасьці калгасаў дзяржаве расьлі, і ні ў кога ўжо не было ніякага сумненьня, што яны калі-небудзь будуць аддадзеныя. Тады ЦК ВКП(б) і СНК СССР 23 сьнежня 1934 г. прыняў пастанову аб скасаваньні запазычанасьці асобным калгасам. З калгасаў БССР сьпісвалася 19997410 рублёў 99 капеек па капітальнай запазычанасьці, 175572,91 руб. па працэнтах.[179]

Калгасная маёмасьць у сьвядомасьці селяніна была «нічыйнай». Гэтаму дапамагала і паўсюдная неахайнасьць і безадказнасьць. Калгасная маёмасьць пачынала раскрадацца. Хлебанарыхтоўкі 1931 году зраклі сялянаў на галоднае жыцьцё. У шэрагу раёнаў Расеі і Украіны зьявіліся гэтак званыя «цырульнікі» — галодныя жанчыны, дзеці, якія нажніцамі стрыглі каласы новага ўраджаю. Каб спыніць раскраданьне, 7 жніўня 1931 г. прымаецца «Закон об охране имущества государственных предприятий, колхозов и кооперации и укреплении общественной (социалистической) собственности», які прадугледжваў за крадзёж калгаснай маёмасьці расстрэл ці 10 гадоў пазбаўленьня волі з канфіскацыяй маёмасьці. Толькі за першы квартал 1933 г. у БССР згодна з гэтым законам былі асуджаныя 5526 чалавек, 69% зь якіх — расстраляныя. За 1933-1934 гг. асуджана 10206.[180]

Аднак, нягледзячы на расстрэлы, памеры крадзяжоў не памяншаліся. Фактычна, гэта і ня быў крадзёж — селянін забіраў тое, што ў яго прымусова адбірала дзяржава ў выглядзе падаткаў ды пустых працадзён.

Акрамя рэпрэсіяў супраць сялянства і вынішчэньня заможных гаспадароў, калектывізацыя пацягнула і зьмену ладу сялянскага жыцьця. Ліквідавалася ня толькі магчымасьць працаваць на «сваёй» зямлі. Пры ўступленьні ў калгас адбывалася абагульненьне рабочай і прадуктыўнай жывёлы. На практыцы фарсіяваньне тэмпаў калектывізацыі, прымусовае ўтварэньне калгасаў прыводзілі да абагульненьня нават хатняй птушкі. Пры гэтым сяляне, што ўнесьлі ў калгасную скарбонку больш значны ўклад, карысталіся такімі самымі матэрыяльнымі і юрыдычнымі

*[179] Тамсама, воп.3, спр.224, а.47.*

*[180] НА РБ Ф.4. Воп.3, спр.474, а.197.*



правамі, што і галота. Таму заможныя гаспадары перад уступленьнем у калгас пачалі забіваць хатнюю жывёлу, якая часткай ішла на харчаваньне сям'і, часткай на продаж. Толькі ў сьнежні 1929 г. у БССР было прададзена ці забіта звыш 35 тыс. коней, шмат кароў, сьвіней, авечак, птушкі. Да траўня 1930 г. пагалоўе коней і буйной рагатай жывёлы скарацілася больш як на чвэрць.[181]

Нормы абагульненьня ўстанаўліваў Калгасцэнтар СССР. Яны былі наступныя: рабочая жывёла і каровы — 100%, сьвіньні — 80%, авечкі і козы — 60%. Каб выправіць становішча, забясьпечыць калгасы жывёлай, 3 лістапада 1930 г. ЦВК і СНК СССР прынялі пастанову «О мерах против хищнического убоя скота». За забой жывёлы ці пакупку мяса можна было атрымаць штраф у памеры дзесяцікротнага кошту жывёлы, ці два гады пазбаўленьня волі з высяленьнем са сваёй мясцовасьці. 28 сьнежня 1930 г. Прэзыдыюм ЦВК БССР пашырыў пакараньне — за забойства жывёлы давалі да трох год пазбаўленьня волі з канфіскацыяй маёмасьці і зямлі.[182] Але такія меры не далі чаканага выніку і да 1933 г. у БССР засталося 72% пагалоўя коней ад таго, што было ў 1928 г., 71% буйной рагатай жывёлы, 68% сьвіней, 54% авечак.[183]

Працаваць трэба было дзеля дабрабыту дзяржавы, а ня ўласнай сям'і. Таму памеры прысядзібных участкаў увесь час пераглядаліся ў бок памяншэньня. Калі селянін на сваіх дзесяцінах мог атрымаць болей, чым зарабіць у калгасе, такое становішча адразу выпраўлялася — у селяніна адразалі «контаррэвалюцыйныя» соткі.

У пачатку 30-х гадоў першаснай адзінкай у арганізацыі сельскагаспадарчай працы стала брыгада. Менавіта тут адбываўся ўлік зробленай селянінам працы. Для аплаты за зробленае ўводзіцца «працадзень» — як эквівалент паміж зробленай работай і атрыманай за яе аплатай. «Працадзень» дазваляў уводзіць зьдзельную аплату. Ужо вясной 1932 г. на зьдзельшчыну перайшлі каля трох пятых, а праз паўгады — звыш чатырох пятых калектыўных гаспадарак БССР.[184]

*[181] Нарысы гісторыі Беларусі. Ч.2. С.166.*

*[182] НА РБ Ф.6. Воп.1, спр.2165, арк.13, адв.*

*[183] Социально—экономические преобразования в Белорусской ССР в годы Советской власти. — Мн., 1970. С.200.*

*[184] Нарысы гісторыі Беларусі. Ч.2. С.271.*

Травеньскі пленум ЦК ВКП(б) 1939 году ўстанавіў мінімум выпрацоўкі працадзён у калгасе. Ён быў розным па розных рэгіёнах СССР: у БССР складаў 80 працадзён. Устанаўленьне неабходнага мінімуму было прадыктавана тым, што калгасьнікі не хацелі працаваць у калгасах, бо нават тыя, хто мелі больш за 365 працадзён, гэта значыць, працавалі ўвесь год безь перапынкаў, атрымлівалі вельмі малы заробак. У 1940 г. аплата за працадні на грамадзкай гаспадарцы ў БССР у структуры даходаў калгасных сем'яў складала каля дзьвюх пятых. Астатнюю частку даходаў даваў прысядзібны ўчастак, сад і ўласная гаспадарка, праца на якой лічылася ледзь не контаррэвалюцыйнай.

Калектывізацыя, вынішчэньне сялянства замацавалі на вёсцы новыя ідэалы жыцьця. Беднасьць, якая ацэньвалася дзяржавай як станоўчая якасьць селяніна, давала яму шэраг сацыяльных пераваг. У гэты ж час заможнае жыцьцё ставіла пад пагрозу існаваньне гаспадаркі. Галоўнай радасьцю сялянскага жыцьця стала гарэлка, якую ў дастатковай колькасьці выраблялі мясцовыя ўмельцы. Пілі кіраўнікі калгасаў — ад нізкага культурнага ўзроўню, каб заглушыць страх ад магчымага пакараньня за нявыкананыя пляны, пілі і калгасьнікі — ад галоднага існаваньня, амаль прыгоннага становішча. Калгасы, якія зьявіліся на беларускай зямлі ненатуральным шляхам разьвіцьця сельскай гаспадаркі, а дзеля вырашэньня «клясавых пытаньняў», адміністрацыйна – прымусовым шляхам, так і ня сталі для сялян «сваімі». Клопат аб росквіце калгаснай гаспадаркі лёг на плечы калгаснага кіраўніцтва, савецка – камуністычных кіраўнікоў. Яны сталі гаспадарамі на зямлі. І калі на пачатку 90 – х гадоў зьнік Савецкі Саюз і была ліквідаваная камуністычная партыя, і так кепскія каласныя ўмовы сталі яшчэ горшымі. Пачаўся стыхійны перадзел калгаснай маёмасьці паміж калгасьнікамі і мясцовым кіраўніцтвам. Вёска за гады савецкай улады добра навучылася гэта рабіць. Бо цэнтралізм, дэталёвае падзяленьне працы, адсутнасьць сувязі паміж заробкам ды колькасьцю і якасьцю працы зрабілі зь селяніна сапраўднага пралетара.

Вынішчэньне сялянства падчас калектывізацыі мае і колькасныя паказчыкі. На працягу дзесяцігодзьдзя доля занятых у сельскай гаспадарцы скарацілася больш як у паўтары разы — прыкладна з 80% усяго працуючага насельніцтва СССР у 1928 г. да 56% у 1937 г., 54% у 1940 г. На працягу 30 – х гадоў зь сельскагаспадарчай вытворчасьці вызвалілася прыкладна 15 – 20 млн. чалавек,[185] якія сталі галоўнымі «салдатамі» індустрыялізацыі.



У 1930 г. па першай і другой катэгорыі са сваіх вёсак у СССР выселена 115231 сям'я, у 1931 г. — 265795 сем'яў. Частка кулацкіх сем'яў — прыкладна 200 – 250 тысяч — «самараскулачылася», гэта значыць, кінула займацца сельскай гаспадаркай і пераехала ў гарады. У 1932 г. і пазьней масавыя кампаніі па высяленьні не праводзіліся, але колькасьць высланых зь вёсак, як мяркуюць навукоўцы, складае прыкладна 100 тыс. сем'яў. Прыкладна 400 – 450 тыс. сем'яў, «раскулачаных» па трэцяй катэгорыі, таксама былі вымушаныя зьехаць са свайго ранейшага месца жыхарства.[186] Больш за 1 млн. 100 тыс. сялянскіх сем'яў у СССР сталі ахвярамі пераходу на калектыўную форму вядзеньня гаспадаркі.

### 2. «ШПІЁНЫ» І «ДЫВЭРСАНТЫ» ЗЬ БЕЛАРУСКІХ ВЁСАК

У пэрыяд ажыцьцяўленьня масавай калектывізацыі спэцслужбы Савецкага Саюзу і БССР арганізавалі шэраг буйных судовых палітычных працэсаў, мэтай якіх было запалохваньне і вынішчэньне тых, хто прытрымліваўся іншага погляду на магчымы шлях разьвіцьця сельскай гаспадаркі і краіны ў цэлым. Супраць іншадумцаў зь вёсак былі ўзбуджаныя крымінальныя справы. Сьледчыя «раскрылі» «контаррэвалюцыйныя арганізацыі», у якіх запісалі, з аднаго боку, кіраўнікоў сельскай гаспадаркі, з іншага — спраўных сялян, якія мелі ўласную думку наконт дзейнасьці дзяржавы. Каб прыцягнуць удзельнікаў «арганізацыяў» да крымінальнай адказнасьці, іх абвінавачвалі ў шкодніцтве, шпіянажы і падрыхтоўцы ўзброеных паўстаньняў.

Арышты, што прайшлі ў 1931-33 гг., закранулі ўсе ўсходнія беларускія раёны, якія ўваходзілі ў склад БССР. Сярод арыштаваных найбольшую частку складалі простыя сяляне. Лічылася, што дзейнічалі яны пад кіраўніцтвам шкоднікаў — з боку старшыняў калгасаў, дырэктараў саўгасаў, аграномаў,

---

[185] *Гордон Л.А., Клопов Э.В. Что это было? Размышления о предпосылках и итогах того, что случилось с нами в 30—40—е годы. — М., 1989. С.79.*

[186] *Урок дает история. С.170.*

работнікаў тых структураў дзяржаўнага апарату, што адказвалі за разьвіцьцё сельскай гаспадаркі. «Арганізацыі» былі буйныя; напрыклад, у сыстэмах камісарыяту земляробства і Трактарацэнтру арыштавана 740 чалавек, вэтэрынарыі і жывёлагадоўлі — 157. Разам з гэтым выкрываліся і менш буйныя, такія як «Трудовая крестьянская партия», за «ўдзел» у якой аддадзена пад суд 59 чал. і зусім малыя, па 5-15 чал., якія раскрывалі ў раёнах, калгасах, мястэчках, ды вёсках. Буйныя антынародныя арганізацыі ў БССР, на погляд сьледчых ОГПУ, мелі кіраўніцтва ў Маскве, дзейнічалі па распрацаваных там праграмных установах. Гэтак, Маскоўскі кіраўнічы «практычны цэнтар» вызначыў час узброенага паўстаньня для арганізацыі, якая быццам бы дзейнічала ў сыстэме камісарыяту земляробства і Трактарацэнтру БССР на сакавік 1933 г., адзначыўшы, што гэты «час найбольш напружаны ў харчовых адносінах».[187] «Шкоднікі», што замацаваліся ў Сельскагаспадарчай сэкцыі Дзяржпляну, ЦСУ, Белсельсаюзу, Белкамасцэнтру, Белсельстрэсту, Белсельбанку, Белкалгасабуду, НДУ сельскай гаспадаркі — гэтак званая «Трудовая крестьянская партия» — таксама не былі самастойныя, зьяўляліся толькі Беларускім філіялам ТКП. «Шкоднікі» ў цэнтральным і нізавых апаратах Наркамзему, вэтэрынарных інстытутах, жывёлагадоўчых калгасах і саўгасах БССР мелі кіраўніцтва ў асобе намесьніка начальніка вэтэрынарнай управы камісарыяту земляробства СССР Гендэльсмана і да т.п.

Сьледчыя ОГПУ ў Маскве вызначылі і галоўныя напрамкі крымінальнага іншадумства беларускіх вясковых «контаррэвалюцыянэраў»: «зьвяржэньне савецкай улады шляхам узброенага паўстаньня і ўсталяваньне буржуазна—дэмакратычнага ладу», «узнаўленьне прыватнай уласнасьці на зямлю і сродкі вытворчасьці», «устанаўленьне хутарской сыстэмы землекарыстаньня», «вяртаньне на былое месца жыхарства высланых кулакоў».[188]

На «шкоднікаў» звалілі ўсе хібы савецкай аграрнай палітыкі — вынішчэньне буйной рагатай жывёлы і коней пры

[187] *Архіў КДБ РБ. Сл.спр.11070, т.2, арк.21.*
[188] *Архіў КДБ РБ. Сл.спр.1033—С.27.*



абагульненьні ў калгасы, падзёж кароў ад утрыманьня ў антысанітарных умовах, рост эпідэміяў і захворваньняў сярод іх і г.д. Гэтак, на сябраў арганізацыі, што, на думку сьледчых, дзейнічала ў сыстэме жывёлагадоўлі БССР, «сьпісалі» страты ў памеры амаль 20 млн. рублёў, ёй прыпісалі вынішчэньне 3082 коней, 5720 кароў, 15128 галоў маладняка буйной рагатай жывёлы, 187130 сьвіней, 27143 адзінкі птушкі.[189] У выніку дзейнасьці «контаррэвалюцыйнай арганізацыі» ў сыстэме Трактарацэнтру было зламана 325 трактараў, спалена 9 ільнозаводаў, землеўпарадкавана толькі 16% плошчы, вызначанай паводле пляну, сарваныя работы па мэліярацыі, развалена 75 калгасаў. Агульная шкода склала амаль 1 млн. руб.[190]

У красавіку 1933 г. у «Тэзысах да дакладу аб палітычным стане БССР і апэратыўнай рабоце органаў ПП ОГПУ з 1.05.1932 па 1.05.1933 гг.» накіраваных у Маскву спэцслужбамі БССР, вызначаліся сумныя паказчыкі разьвіцьця сельскай гаспадаркі за другое паўгодзьдзе 1932 г.: хлебанарыхтоўкі выкананыя на 66%, «кампанія» веснавой сяўбы — на 90,2%, уборка — на 97%. За гэты час з калгасаў выйшла 43155 гаспадарак, распалася 867 калгасаў, працэнт калектывізацыі зьнізіўся на 10,2%. Ня лепшым быў стан выкананьня і іншых «гаспадарча-палітычных кампаніяў»: насеньневая пазыка выкананая на 34,4%, памольны збор — на 38,3%, ільнонарыхтоўкі — на 38,2%, мясанарыхтоўкі — на 73,9%, бульбанарыхтоўкі — на 74,1%.[191] Стан выкананьня асноўных паказчыкаў разьвіцьця сельскай гаспадаркі ва Ўсходняй Беларусі ў сьнежні 1932 г. быў вызначаны як катастрафічны. Каб знайсьці хоць нейкае апраўданьне сваёй заганнай палітыцы, савецкія спэцслужбы пачалі шукаць ворагаў у калгасах, сярод прыватных уласьнікаў, кіраўніцтва сельскагаспадарчай вытворчасьці.

У гістарычнай літаратуры роля спэцслужбаў ва ўстанаўленьні агульнай калектывізацыі, «выкананьні галоўных плянавых паказчыкаў», яшчэ недастаткова адлюстраваная. Ра-

[189] *Тамсама, с.8.*
[190] *Тамсама, спр.11070. Т.2, арк.3 адв.*
[191] *Архіў МБ РФ.*

зам з тым, менавіта ў гэты пэрыяд зь беларускай вёскі была вывезеная і вынішчаная найбольшая колькасьць сялян, што прытрымліваліся погляду аб небаходнасьці аднаўленьня прыватнай уласнасьці на зямлю.Толькі за другую палову 1932 г. колькасьць «засоряющего колхозы элемента», выяўленага ОГПУ ў калгасах, складала 13421 чал., зь іх 649 знаходзіліся на кіраўнічых пасадах.[192]

Беларускія чэкісты за гэты час ліквідавалі 9 контаррэвалюцыйных паўстанцкіх арганізацыяў, 554 кулацкія групоўкі, 15 палітычных банд. Усяго да крымінальнай адказнасьці прыцягнута 14534 чал., палова зь іх — простыя сяляне. Напружана працавала Тройка ПП ОГПУ па БССР, ёю разгледжана 2218 справаў на 5777 чал.[193]

Такім чынам, спэцслужбы прымалі непасрэдны ўдзел у выкананьні «сельгаскампаніяў», дапамагалі давозіць да вёсак тавары шырокага спажываньня — з 40% выкананьне пляну ў гэтай галіне ўзьнялося да 100, на 100,8% выкананая адгрузка бульбы Ленінграду (80% на пачатак умяшальніцтва чэкістаў), складзены рэзэрвавы фонд мяса (2800 т), выкананыя пляны будоўлі дарог і хлебанарыхтовак (на 104,6%), мясанарыхтовак (на 120,2%).[194]

Сяляне, пазбаўленыя матэрыяльных стымулаў заахвочваньня да працы, уключаныя ў вытворчы працэс здабычы сельскагаспадарчай прадукцыі, не хацелі і не сьпяшаліся добраахвотна выконваць дзяржаўныя пляны. Формы супраціву былі розныя — ад пасіўнага няўдзелу ў працы да актыўных выступленьняў. На канец 1932 г. было зарэгістравана 296 масавых выступленьняў, колькасьць арыштаваных іх удзельнікаў склала 4201 чал.[195] У пачатку 1933 г. галосны і агентурны апарат ПП ОГПУ па БССР быў задзейнічаны для ажыцьцяўленьня «шырокай апэрацыі па арганізацыйных кадрах кулацкай контаррэвалюцыі». На абласныя ўправы былі спушчаныя пляны выкрыцьця злачынцаў, якія былі вызначаныя каму-

[192] *Тамсама.*
[193] *Тамсама.*
[194] *Тамсама.*
[195] *Архіў МБ РФ.*



ністычным кіраўніцтвам СССР і БССР: працэнт шкоднікаў мусіў быў складаць 4-6% ад агульнай колькасьці працаздольнага сялянства. Актывізацыя спэцслужбаў БССР была накіраваная на стрымліваньне сялянскай незадаволенасьці ў выніку выкананьня плянавых кампаніяў — тым часам як беларуская вёска галадала.

Рэпрэсіі супраць сялянства набылі масавы характар. Па зьвестках, што ішлі ад беларускіх спэцслужбаў у Маскву, з пачатку году па 1 траўня 1933 г. у БССР было ліквідавана 33 «контаррэвалюцыйныя арганізацыі» (гл.табл. 12) з колькасьцю ўдзельнікаў у 2362 чал., 2274 «кулацкія групы» з 15562 удзельнікамі. Усяго зь беларускай вёскі «вынялі» за гэты час 29018 чалавек, зь якіх 16179 прадстаўлялі «сацыялістычны сэктар вёскі».[196]

Трэба адзначыць, што да сялянаў дзяржава паставілася вельмі жорстка. Толькі 1448 справаў на 5794 чалавек было перададзена ў вытворчасьць да камісарыяту юстыцыі. Лёс астатніх вырашаў ня суд, а Тройка ПП ОГПУ па БССР. Як правіла, на разгляд Тройкі паступалі справы, што, на думку сьледчых, выкрывалі «злачынцаў» , безь якіх — небудзь іншых дадатковых доказаў. Гэтак, галоўным доказам існаваньня «контаррэвалюцыйнай дзейнасьці» «Партии освобождения крестьян», Сялянскай партыі ды іншых арганізацыяў былі толькі сьведчаньні арыштаваных: яны маглі стаць сьведкамі, а не абвінавачанымі, калі давалі неабходныя паказаньні.

[196] *Тамсама.*

**Табліца 12. СЬПІС БУЙНЕЙШЫХ «КОНТАРРЭВАЛЮЦЫЙНЫХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ» У ГАЛІНЕ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ БССР, ЗЬЛІКВІДАВАНЫХ У 1933 Г.**

*1 — №, 2 — Назва арганізацыі, 3 — Колькасьць чалавек, 4 — Колькасьць ячэек, 5 — Месца знаходжаньня*

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| 1. | Шкодніцтва ў сыстэме Наркамзему і Трактарацэнтру (кіраўнік Тарасаў М.А., Масюкоў К.Н.) | 740 | 52 | Па ўсёй рэспубліцы |
| 2. | Шкодніцтва ў сыстэме вэтэрынарыі і жывёлагадоўлі (кіраўнікі Крылоў В.З. і Грузакоў Д.Е.) | 157 | 9 | —»— |
| 3. | «Трудовая крестьянская партия» (кіраўнікі Бонч-Асмалоўскі Р.А., Гарэцкі Г.І., Хоцкі П.А.) | 59 | 10 | —»— |
| 4. | «Партия освобождения крестьян» (кіраўнікі Шышэй К.Ц., Лінскі М.Я., Муравіцкі К.С.) | 110 | | —»— |
| 5. | Сялянская партыя («народный союз здоровой родины») (кіраўнікі Замбржыцкі В.В., Крукоўскі А., Ждановіч І.) | 96 | 5 | —»— |
| 6. | Шкодніцтва ў сыстэме лясной гаспадаркі і лесаапрацоўчай прамысловасьці | 64 | | ——»— |
| 7. | Беларуска-літоўская сялянская партыя | 159 | | Дубровенскі раён |
| 8. | Эсэраўская («Порох») | 110 | | Лёзьненскі, Сураскі, Віцебскі |
| 9. | Эсэраўская («Приезжие») | 41 | | Сеньненскі, Чашніцкі |
| 10. | «Партия освобождения крестьян» | 97 | | Церахаўскі, Гомельскі |
| 11. | Эсэраўская («Деятели») | 56 | | Чачэрскі |
| 12. | Эсэраўская («Ночлежники») | 50 | | Камарынскі |
| 13. | Контаррэвалюцыйна — дывэрсійная («Беглые») | 56 | | Лагойскі, Менскі |
| 14. | Контаррэвалюцыйна — дывэрсійная («Зубры») | 50 | | Бешанковіцкі |
| 15. | Контаррэвалюцыйна — дывэрсійная («Берлога») | 80 | | Парыцкі |
| 16. | Контаррэвалюцыйна — дывэрсійная («Маяк») | 197 | | Мазырскі |
| 17. | Контаррэвалюцыйна — дывэрсійная («Замок») | 57 | | —»— |
| 18. | Контаррэвалюцыйна — дывэрсійная («Тертажане») | 69 | | Жлобінскі, Гомельскі, Асіповіцкі |
| 19. | Контаррэвалюцыйна — дывэрсійная («Подозрительные») | 84 | | Уздоўж чыгуначнай лініі Васілевічы — Хойнікі |
| 20. | Контарэвалюцыйна — дывэрсійная («Кроты») | 87 | | Глускі, Любаньскі |
| 21. | Контаррэвалюцыйна — дывэрсійная («Пораженцы») | 56 | | Лепельскі, Барысаўскі |
| 22. | Контарэвалюцыйна — дывэрсійная («Лесники») | 49 | | Полацкі |

Тройкі не шкадавалі нікога. З 13414 чал., што трапілі ў яе жарнавы за 4 мес. 1933 г., 2158 чал. атрымалі вышэйшую меру пакараньня — расстэл, 8167 — канцлягеры тэрмінам ад 3-х да 10-ці гадоў.[197]

Пакараньні, што атрымлівалі сяляне, уражваюць сваёй жорсткасьцю і бязьлітаснасьцю. Гэтак, у лістападзе 1932 г. — сакавіку 1933 г. у Пухавіцкім раёне была «выкрытая» «Партия освобождения крестьян», якую, на думку сьледчых, узначалілі лекар Шышэй К.Ц., настаўнік Лінскі М.Я. і аграном Муравіцкі К.С. Да крымінальнай адказнасьці было прыцягнута 110 чалавек, большасьць якіх былі сялянамі—адзінаасобнікамі ці калгасьнікамі. Членам «арганізацыі» інкрымінавалі сувязі з Польскім генштабам, удзел у падрыхтоўцы ўзброенага паўстаньня, контаррэвалюцыйную агітацыю і «практычную дзейнасьць па зрыве важнейжых гаспадарча-палітычных кампаніяў (усіх відаў нарыхтовак, пасяўных кампаніяў і ўборачных)».[198] Толькі 28 чалавек з абвінавачаных на папярэднім сьледзтве прызналі сябе вінаватымі і далі паказаньні на другіх. Галоўным доказам існаваньня арганізацыі, з аднаго боку, былі паказаньні сьведкаў, зь іншага — нявыкананыя пляны, разваленыя калгасы. Іншых доказаў не было нават у сьледчай справе. Але нягледзячы на гэта, 2 красавіка 1933 г. пастановай Тройкі пры ПП ОГПУ па БССР 102 чалавекі з арыштаваных асуджаныя да вышэйшай меры пакараньня — расстрэлу, 8 — да 10 гадоў папраўча-працоўных лягераў. Людзей расстралялі. Але ўжо ў 1940 г. сьледчыя, што арганізавалі гэтую справу — памочнік начальніка СПА М.П.Чэрнышаў, начальнік СПА Г.А.Лупекін, намесьнік ПП ОГПУ па БССР М.Д.Шароў былі абвінавачаныя і асуджаныя за фабрыкацыю крымінальных справаў. Але толькі ў лістападзе 1956 г. сялянам было вернутае добрае імя — пастанова Тройкі адмененая — «за адсутнасьцю склада злачынства».

У 1957-1959 гг. былі рэабілітаваныя — «за недаказанасьцю» 52, у 1960 г. — 39 удзельнікаў Сялянскай партыі. Высьветлілася, што абвінавачаных сьледчыя прымушалі падпісвацца на чыстых старонках, не дазвалялі чытаць тэксты пратаколаў. Калі арыштавалі братоў Івана і Аляксандра Раманоўскіх, амаль уся вёска

[197] *Архіў МБ РФ.*

[198] *Архіў КДБ РБ. Сл.спр.7458, арк.15.*



падпісалася пад лістом, дзе было напісана пра іх невінаватасьць. Але на гэты ліст ніхто не зьвярнуў увагі, ён нават ня быў далучаны да матэрыялаў сьледзтва.[199] Людзей вымушалі рабіць паклёпы на суседзяў пад пагрозай зброі, на допытах іх зьбівалі.[200]

Масавая рэабілітацыя сялян адбылася ў 1988—91 гг. У працэсе рэабілітацыя сьледчыя пачалі шукаць сьведкаў, у тым ліку зрабілі запыты на 65 асуджаных з Пухавічаў і Пухавіцкага раёну. Але ў сваіх вёсках ніхто з былых «ворагаў» і іх сваякоў ужо ня жыў.

Пра тое, як людзі рабіліся шпіёнамі, сьведчыць пратакол допыту Кашыцкага Рыгора, прыгаворанага ў 1932 г. да 10 гадоў лягераў. У 1988 г. ён быў выкліканы як сьведка тых падзеяў для рэабілітацыі нерэбілітаваных пяці сябраў Сялянскай партыі. Размова працягвалася 5 гадзін. Кашыцкі ўспамінаў: «Всем нам было предъявлено обвинение в укрывательстве какого-то Лопатецкого, который был якобы бандитом. Позже мне в следственном изоляторе стало известно от таких же арестованных, как и я, что Лопатецкий Иван (отчества не знали), бывший житель деревни Сужино Пуховичского района Минской области был выслан как кулак, но с места высылки бежал и скрывался в своей местности у деревни Сужино. В связи с этим было арестовано большое количество людей как Пуховичского района, так и Осиповичского, которые якобы укрывали опасного бандита Лопатецкого. В действительности он бандитом не был, об ограблении местных жителей или государственных торговых точек мы ничего не слышали и не знали. Я отрицал на следствии свое знакомство с Лопатецким Иваном, меня, да и других подследственных, избивали и требовали признания связи с Лопатецким. Когда связи с Лопатецким доказать не смогли, то начали требовать признания о том, что я по национальности поляк, связан с польскими разведорганами и занимаюсь шпионажем в пользу Польши. Все эти обвинения я также отрицал. Помню, что начальник Пуховичского ОГПУ Горковенко вызвал меня на допрос и спросил, хочу ли я кушать. Я ответил положительно, тогда он спросил, может, я и выпить хочу, я ответил, что и выпить хочу. После этого он выставил из портфеля на стол бутылку водки, хлеб и колбасу. Я налил себе стакан водки

[199] *Архіў КДБ РБ. Сл.спр.21002. Т.5.*

[200] *Тамсама, т.6.*

и выпил, после чего закусил хлебом и колбасой. Горковенко предложил мне закурить. Я взял у него папиросу. Покуда он тоже покушал, а затем курил — мы молчали. После перекура он мне предложил поговорить о польском шпионаже, о том, что я ходил в Польшу и передавал разведданные. Как – то по ошибке я назвал Горковенко товарищем, сказав ему: «Товарищ начальник, я никогда в Польшу не ходил, шпионом польским не был и признаваться в этом не буду, так как ни в чем я не виноват». Он через стол толкнул мне в грудь школьной линейкой и выкрикнул: «Твой товарищ в Брянском лесу!» Я не сдержался, схватил стоявшую на столе чернильницу и бросил в него, попав ему в грудь. Он вызвал охрану, и меня посадили в карцер в одиночку, где все было бетонное — стены, пол. В ширину была она примерно метр и в длину метра полтора – два. Окон не было. Единственным спасением была деревянная дверь, к которой я прижался спиной и так мог стоять, не подвергая себя опасности застыть совсем. Пробыл я там, в карцере, 21 сутки, после чего всех нас выгнали из камер во двор изолятора, выстроили, затем погрузили на автомашины и повезли в город Минск. В Минской тюрьме в камере было нас сорок человек. Должен указать, что всех нас избивали и заставляли взять на себя вину, что мы польские шпионы, принадлежим к бандформированиям».[201]

Поўны ўлік шпіёнаў і контаррэвалюцыянэраў у вёсцы па рэспубліцы ў 30-я гады ніхто ня вёў. Але ўявіць сабе маштабы зробленага можна.

Толькі ў Сеньненскім раёне «ў выніку апэратыўнага ўдару па кулацкіх контаррэвалюцыйных элементах» у студзені 1933 г. «вынята» 351 чал. Органы ОГПУ выявілі і контаррэвалюцыйныя групоўкі: у Латыгольскім сельсавеце — былыя актыўныя ўдзельнікі эсэраўскага паўстаньня, у вёсцы Аляхнова Аляксеніцкага сельсавету — кулацкая, якая разваліла калгас, у калгасе «Вялікае Сяло» Сідорліцкага сельсавету, у калгасе «Клімейка» Аляксеніцкага сельсавету, у калгасе «Вялікае Забароўе» Буцкага сельсавету — таксама кулацкія. (Гл. табл. 13)

Са сьнежня 1932 г. па сакавік 1933 г. толькі з памежнай зоны «вынята» 2180 чал., выкрыта 146 контаррэвалюцыйных груп.[202]

*[201] Архіў КДБ РБ. Сл.спр.21002. Т.6, арк.408–410.*



Ёсць зьвесткі, што зь лета 1932 г. па лета 1933 г., за год, ліквідаваныя 42 арганізацыі, 2828 контаррэвалюцыйных кулацкіх груп, 15 палітычных банд. Арыштавана і асуджана 43552 чалавек.[203] Але гэта ня ўсё. На ўліку спэцслужб (на гэтак званай распрацоўцы) у траўні 1933 г. знаходзілася 26957 чалавек «кулацкага і антысавецкага элемэнту» (яшчэ 9 арганізацыяў), на 10168 грамадзян вялося сьледзтва, яны былі ўжо арыштаваныя.[204]

«Шкодніцтва» знайшлі ў сыстэме ільнаводзтва БССР. 3 сакавіка 1934 г. 6 чал. былі расстраляныя па прыгаворы Калегіі ОГПУ.

У 1934 г. Віцебскі сэктар НКВД, які кантраляваў 14 раёнаў, распрацоўваў наступныя контаррэвалюцыйныя арганізацыі: у раёне Горацкай МТС (агентурная справа «Священные») — 25 чалавек, «Белогвардейцы» — 25, у Сураскім раёне («Осевшие») — 10 чалавек, тамсама выкрывалі яшчэ адну арганізацыю пад кодавай назвай «Максималисты», у Гарадоцкім раёне («Упорные») — 45 чалавек і г.д. 24 лютага 1935 г. па Віцебскім сэктары была разасланая дырэктыва па барацьбе зь сельскім бандытызмам. У ёй вызначалася ў якасьці прыкладу, што начальнік Аршанскага аддзелу «мабілізаваў» 25 чалавек, якія за 2 – 3 дні арыштавалі 64 чалавекі ў сваім раёне, 88 у Гарадоцкім. «Все это говорит за то, что там, где по – боевому берутся за выполнение директив наркома..., там мы действительно имеем реальные результаты».[205] Згодна справаздачы Віцебскага сэктару НКВД БССР, з 15 лютага па 1 сакавіка 1935 г. па раёнах сэктару (бязь Віцебска і Горацкага раёну) арыштавана 375 чалавек, у Аршанскім — 100, у Чашніцкім — 67, Расонскім — 57, Талачынскім — больш за 50 чалавек.[206]

З 20 сьнежня па 5 лютага 1935 г. ліквідавана 129 тэрарыстычных арганізацыяў (598 чалавек) і 1281 тэрарыстаў – адзіночак. Усяго за гэты пэрыяд арыштавана 2015 чалавек.[207]

Але пошук ворагаў ня скончыўся. Да контаррэвалюцыйнай

*202 НА РБ. Ф.4. Воп.21, спр.529, арк.50.*
*203 Архіў МБ РФ.*
*204 Тамсама.*
*205 Архіў КДБ РБ.*
*206 Тамсама.*

дзейнасьці сялян сталі далучаць ня толькі шкодніцтва. 21 траўня 1935 г. начальніку Магілёўскага сэктару НКВД БССР даслалі зь Бялыніцкага раёну ліст, у якім кіраўнік мясцовых спэцслужб пісаў: «18 мая с.г. в колхозе им. 7 съезда Советов дер. Кунцы Кулаковского сельсовета Белыничского района имел место возмутительный случай дискредитации в контрреволюционных целях идеи коллективизации. Колхознику Усову Ивану Прокофьевичу было в тот день отказано в даче колхозного коня для вспашки усадебной земли, ввиду того, что все лошади в колхозе в этот день были заняты на неотложной работе, связанной с окончанием сева по колхозу. Не получив коня в колхозе, Усов Иван запряг в плуг своих сыновей Никифора и Сергия и невестку и на них пахал и садил картофель. Описываемый случай использования людей вместо рабочих лошадей расценивается нами как один из видов контрреволюционной агитации против колхозов... Прошу санкционировать арест Усова Ивана Прокофьевича и привлечение его к ответственности по признакам 6-72-в УК БССР. Вопрос с местным прокурором согласован».[208] У сакавіку 1936 г. зноў выкрываецца шкодніцтва ў сыстэме вэтэрынарыі — арыштаваныя супрацоўнікі Вэтэрынарнага навукова-дасьледчага інстытуту ў Віцебску за заражэньне жывёлы бруцэлёзам.[209] У гэты час ліквідаваная контаррэвалюцыйная група ў Рагачоўскім раёне. У сыстэме трэсту Лесбел знойдзеныя шкоднікі па ўсіх напрамках ягонай дзейнасьці. Ім паставілі ў віну: «1. Сведение к минимуму восстановления и производительности лесного хозяйства при одновременной хищнической эксплуатации его. 2. Неправильный отвод в рубку лесных площадей, заведомо заниженное планирование выходов ценных сортиментов при наличии данных о более высоких доходах. 3. Хищническая эксплуатация леса, расстраивающая лесные насаждения путем оставления массы недорубков, приисковые рубки и т.д.... 6. Проведение антигосударственной кулацкой политики в использовании земель Гослесфонда».[210]

У верасьні — кастрычніку 1936 г. ліквідуюцца контаррэвалюцыйныя арганізацыі па агентурных распрацоўках «Организатор», «Мятежники», «Охотники» на тэрыторыі Ушацкага раёну. Арыштавана 17 чалавек: 3 кулакі, 8 заможных серадняком і 5 проста серадняком. На 16 чалавек зьбіраецца кампрамат. Арыштаваным інкрымінавалі тое, што «В 1936 г. в колхозе «Ковалевщина» пало 3 лошади от чрезмерной эксплуатации», а брыгадзір, які ўваходзіў у арганізацыю, «создал тормоз в своевременной сдаче государству обязательных поставок».[211]

У 1936 г. у сьледчых справах зьмяняецца клясыфікацыя контаррэвалюцыйных арганізацыяў на вёсцы. Акрамя шпіёнскіх і дывэрсійных яны становяцца яшчэ і фашысцкімі. Іх знаходзяць у Лёзьненскім, Бялыніцкім, Багушэўскім раёнах. Сьледзтва вялося вельмі жорстка, людзей вымушалі даваць паказаньні супраць родных — братоў, сясьцёр, бацькоў. Колькі болю, прыніжэньня, пакутаў паміж радкамі пратаколу допыту простага калгасьніка з калгасу «Чырвоны кастрычнік» Лёзьненскага раёну: «Вопрос: Вам также известна и контрреволюционная фашистская деятельность Ваших братьев Владимира и Павла. Расскажите об этом. Ответ: О контрреволюционной фашистской деятельности моих братьев Владимира и Павла мне ничего не известно. Вопрос: Вы говорите неправду. Следствие располагает данными, что Ваши братья Владимир и Павел, состоя в контрреволюционной фашистской организации, проводили вербовку лиц в эту организацию, в том числе ими в эту организацию были завербованы и лично Вы. Подтверждаете Вы это? Ответ: Выше мною показанное ложно. Признаюсь, что действительно мои братья Владимир и Павел состоят в контрреволюционной фашистской организации, вербовали и обрабатывали других лиц в эту организацию, в том числе лично я летом 1936 года моим братом Владимиром в присутствии брата Павла был завербован».[212]

За своечасовае раскрыцьцё шпіёнаў і дывэрсантаў 14 работнікаў НКВД БССР былі прадстаўленыя да ўзнагародаў. Узнагароджвалі за ліквідацыю па БССР у 1936 г. 41 «бандыцка — грабіцельскай» групоўкі і 150 бандытаў — аднаасобнікаў.

[207] *Архіў МБ РФ.*
[208] *Архіў КДБ РБ.*
[209] *Тамсама.*
[210] *Тамсама.*
[211] *Архіў КДБ РБ.*
[212] *Тамсама.*

Усяго ў 1936 г. асуджана 19977 чал., зь іх Тройкай НКВД БССР 8074 чал. — «уголовно — деклассированного социально — вредного элемента». Гэта было на 114% (ці на 4297 чал.) болей, чым у 1935 г. Было за што ўзнагароджваць! Заўважым, што за 1936 г. Вярхоўны суд разгледзеў 136 справаў, асудзіўшы 349 чал.[213]

Спэцслужбы па раёнах мелі добры апарат для ажыцьцяўленьня сваёй дзейнасьці. У першую чаргу ён складаўся з асьведамляльнікаў і рэзыдэнтаў. Гэтак, у жніўні 1939 г. Парыцкае раённае аддзяленьне НКВД мела 84 агентуры (9 рэзыдэнтаў і 75 асьведамляльнікаў), Бярэзінскае — 150 чалавек на 60 тыс. насельніцтва ў 147 калгасах. Тагачасны кіраўнік НКВД БССР Л.Цанава лічыў, што гэта вельмі мала, бо шкоднікі на сяле ніяк ня зводзіліся. У рамках ліквідаванага антысавецкага падпольля ў 1938 г. было рэпрэсавана 6530 чалавек, зь іх 1844 кулакі, 1762 калгасьнікі, 640 адзінаасобнікаў, 50 рабочых МТС. Рэпрэсіі супраць сялянаў хоць і зьменшыліся, але не сьціхалі. Арыштоўвалі цяпер яшчэ і па нацыянальнай прыкмеце: калі паляк — дык польскі шпіён, калі латыш — дак нямецкі ці латыскі. Тут літасьці ўжо не было ніякай. У траўні 1939 г. бюро ЦК КП(б)Б разгледзела заяву жонак рэпрэсаваных калгасьнікаў калгасу «Гайсма» Быхаўскага раёну. Чарговая «адліга» дазволіла прыняць наступнае рашэньне: «Лічыць установленым, што старое варожае кіраўніцтва НКВД БССР (Берман, Наседкін, Эпштэйн, Ягадкін) дапусьціла контаррэвалюцыйны пагром калгасу «Гайсма», кіруючыся ў асноўным нацыянальнай прыкметай. З 70 сем'яў латышоў, якія пражывалі ў калгасе «Гайсма», арыштавалі і асудзілі 69 галоваў сем'яў. У сувязі з тым, што ёсьць падставы меркаваць, што многія зь іх былі арыштаваныя і асуджаныя па правакацыйных дадзеных — даручыць тав.Цанаву ў дзьвюхдзэкадны тэрмін расьсьледаваць цалкам гэтае пытаньне і матэрыял дакласьці Бюро ЦК КП(б)Б».[214]

17 ліпеня 1939 г. адбылося закрытае паседжаньне бюро ЦК КП(б)Б, на якім выраталі пытаньне з калгасам «Гайсма» камісарам НКВД Л.Цанавам было ўжо падрыхтаванае «Заключение» па фактах праверкі арыштаў латышоў: на гэты час асуджана да

[213] *Архіў КДБ РБ.*

[214] *НА РБ. Ф.4.*



вышэйшай меры пакараньня 46 чалавек, да 10 год — 16, да 8 год — 2, да 5 год — 1, двое памерлі ў турме, 2 чалавекі — адпушчаныя.[215] У «Заключении» адзначалася: «Анализируя все следственные дела и агентурные материалы, устанавливается, что на подавляющее большинство арестованных — никаких оснований к их аресту не было и материалов никаких не имелось и не имеется — тем более по линии шпионажа. В агентурных материлах есть на отдельных лиц никем не проверенные донесения агентов, впоследствии осужденных, об их якобы антисоветских высказываниях в 1930-33 гг. против коллективизации и госпоставок. Аресты в этом колхозе начали проводить с 3.12.1937 г., причем при арестах, как это видно из материалов, исходили только из национального признака. Происходило это следующим образом: заранее были заготовлены и отпечатаны на машинке шаблонные, одного содержания для всех, постановления на арест, в которых формулировалось так: «Из имеющихся материалов усматривается, что гр-н такой-то (оставлено было место для вписывания фамилии, которая и вписывалась от руки) был завербован латвийскими разведорганами, занимался контрреволюционной, шпионской работой, каковое преступление предусмотрено по 68 ст. УК БССР. Постановил — подвергнуть аресту, по делу провести следствие». Арестовано по таким шаблонным постановлениям на арест — 28 человек. Все эти дела подписаны только начальником райотделения и прокурором по Быховскому району Осветимским. Справки на арест остальных лиц также носят шаблонный, однотипный для всех характер, под собой не имеют никакой почвы».[216] Бюро ЦК КП(б)Б пастанавіла перагледзець усе справы калгасьнікаў, і асуджаных несправядліва — рэабілітаваць. Аднак, гэтага ніхто не зьбіраўся рабіць. Добрае імя расстраляным у лютым 1937 г. калгасьнікам-латышам было вернутае толькі ў 1989 годзе.

У студзені 1938 г. НКВД БССР падвёў вынікі па трох вялікі апэрацыях — польскай, латыскай і нямецкай — па выкрыцьці шпіёнаў і дыверсантаў. У другой палове 1937—1938 годзе па польскай апэрацыі арыштавана 15741 чалавек (зь іх 14034 расстраляна), па латыскай — 1459, па нямецкай — 563 чалавекі. Былі

[215] *НА РБ. Ф.4. Воп.3, спр.257, арк.238.*

[216] *Тамсама, арк.239—240.*

раскрытыя 522 польскія паўстанцкія групоўкі, 29 паўстанцкіх і 18 шпіёнскіх нямецкіх груповак, 48 латыскіх паўстанцкіх груповак.[217] Абсалютная большасьць зь іх знаходзілася ў вёсцы. Вынішчалі калгасьнікаў, аднаасобнікаў, кулакоў, сельскую інтэлігенцыю.

У 1939 годзе адбыліся суды над некаторымі з тых, хто асабліва лютаваў падчас масавых арыштаў. Рабілася ўсё па ўжо адпрацаванай мэтодыцы — у органах НКВД выкрылі варожую арганізацыю. У працэсе сьледзтва было ўстаноўлена, што большая частка асуджаных людзей была невінаватая, да арыштаваных прымяняліся «фізычныя мэтады» — іх білі, жорстка дапытвалі. Але гэта ня мела ніякага значэньня для асуджаных — масавая рэабілітацыя пачалася толькі ў 1956 годзе і працягвалася да 1961 году. Але ўжо ў 1939 годзе суды ўстанавілі наступнае: «З абвінаваўчага прыгавору па справе Гепштэйна Аляксандра Міхайлавіча, начальніка 3 аддзела УГБ НКВД БССР, лейтэнанта дзяржбясьпекі. 16-19 лістапада 1939 г.: «Изучением материалов предварительного и судебного следствия установлено, что Гепштейн, являясь участником антисоветской организации, существовавшей в органах НКВД, по заданию ее активных участников Наседкина и Бермана проводил вражескую работу в органах НКВД БССР, а именно: а) в период операций 1937 и 1938 годов проводил массовые необоснованные аресты граждан, проживавших в Белоруссии, обвиняя последних в антисоветской, диверсионной и террористической деятельности. б) составлялись фиктивные справки, в которых указывалась национальность поляк, а на самом деле имелись материалы, что по национальности белорус. Не проверяя эти материалы, направлял их на тройку и двойку, которые осуждали по 1 категории.

Вопреки существующего приказа о направлении дел в отношении военнослужащих и лиц, имеющих высшее образование, в специальные суды, Гепштейн со своим заместителем Лариным направлял таковые на рассмотрение тройки, которая приговаривала последних по 1 категории (по специалистам приговорено 41 чел. и по латышской операции из 76 дел 75 приговорено по 1 категории). При проведении оперативных совещаний совместно с врагами народа Берманом и Наседкиным, давал установки о форсировании разоблачения арестованных и требовал от следователей и начальников периферийных органов разоблачений не менее одного арестованного ежедневно.

По инициативе Бермана и Гепштейна был создан при Минской тюрьме специальный корпус, в котором помещались осужденные к ВМН и путем методов физического воздействия, при допросах добивались показаний на других лиц и, кроме того, Гепштейн, зная об избиениях арестованных при Управлении НКВД, не принимал мер к пресечению этих безобразий, а имели место случаи, когда Гепштейн сам принимал участие в избиении арестованных».[218]

Рэпрэсіі супраць сялянства павінны былі дапамагчы, як лічылі патыйныя кіраўнікі БССР, найлепшай арганізацыі разьвіцьця сельскай гаспадаркі. Калгасы былі закліканыя пракарміць усё гарадзкое насельніцтва, забясьпечыць індустрыялізацыю. Але вынікі вынішчэньня беларускай вёскі сталі адчувальнымі ўжо напрыканцы 30-х гадоў. 31 сакавіка 1938 г. у Маскву была накіраваная дакладная запіска «Аб ліквідацыі шкодніцтва ў сельскай гаспадарцы». І хоць спэцслужбы добра працавалі, вынікі разьвіцьця сельскай гаспадаркі выглядалі несуцяшальна: у 1937 г. сярэдняя выдача на працадзень склала зернавых 1 кг 708 г, грошай — 35 капеек. Шэраг калгасаў давалі яшчэ меней. Амаль ні ў водным калгасе не вялося правільных севазваротаў. На 64626 галоваў зьменшыўся конскі статак, «адносіны да коней ў калгасах варварскія». За 1937 г. статак буйной рагатай жывёлы зьменшыўся на 54800 галоваў. Пасьля рэпрэсіяў засталося ў БССР толькі 277 вэтэрынараў. Плян мясапаставак за першы квартал 1938 г. выкананы на 25%. У гарадах не было мяса, малака (з патрэбных 12 т у Менск завозілася толькі 2 т). У продажы фактычна адсутнічалі малочныя прадукты, такія як сыр і масла.[219]

Аднак апалягеты «сталінскага парадку» ў вёсцы сустракаюцца і сёньня. Яны лічаць, што людзі тады жылі хоць і ня вельмі багата, але з надзеяй і верай. І забываюць пра «шпіёнаў», «дывэрсантаў», «контаррэвалюцыянэраў» зь вёсак, што бясплатна пракладалі каналы, валілі лес, працавалі на радовішчах у Сібіры,

[217] *Тамсама, воп.21, спр.1397, арк.19—22.*

[218] *Архіў КДБ РБ.*

[219] *Тамсама.*

ці былі проста забітыя. Няма іхных магіл на роднай зямлі. Але гэта ня значыць, што можна забыцца на зьдзек зь беларускага сялянства і нашага народу і рабіць выгляд, што нічога ня здарылася.

### Табліца 13. РАЁНЫ БССР, У ЯКІХ ДЗЕЙНІЧАЛІ КОНТАРРЭВАЛЮЦЫЙНЫЯ ГРУПЫ Ў 1932–33 ГГ.*

*1 — № п/п , 2 — Раён, 3 — Назва арганізацыі, у якой дзейнічала контаррэвалюцыйная група, 4 — Лідэры, 5 — Колькасьць сяброў, 6 — Час дзеяньня, 7 — Сацыяльны склад удзельнікаў.*

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Чавускі | к-с імя Леніна | (Курыльчык С.Р., Давыдзенка А.В.) | 48 | 1932 | Сяляне, старшыня калгасу, аграном, брыгадзір |
| | | к-с «Новае жыцьцё» | (Рулька П.М., Зоўмер Я.М.) | 47 | 1932 | Сяляне (калгасьнікі, адзінаасобнікі), старшыня калгасу, аграном, брыгадзір |
| | | к-с «Цімохаўскі» | (Вішнявецкі В.П., Славецкі Х.Х.) | 29 | 1932 | Сяляне (калгасьнікі, адзінаасобнікі) |
| 2. | Бешанковіцкі | МТС | (Власавец І.М.) | 4 | 1932 | Аграномы, заатэхнік |
| 3. | Сураскі | МТС | (Сьміpагін С.І.) | 33 | 1932 | Дырэктар МТС, аграном, брыгадзіры, бугальтар, сяляне (калгасьнікі, адзінаасобнікі) |



| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | к-с «Кастрычнік» к-с імя Варашылава | | | | |
| 4. | Сеньненскі | МТС | | 2 | 1932 | Аграном, інспэктар |
| | | У калгасах раёну | | 351 | 1933 | Калгасьнікі, адзінаасобнікі |
| 5. | Лепельскі | МТС | | 4 | 1932 | Аграном, трактарысты, табэльшчык |
| | | к-с імя VI Зьезду Саветаў | | 2 | 1932 | Старшыня, адзінаасобнік |
| | | к-с «Савецкая Беларусь» | | 4 | 1932 | Брыгадзір, трактарыст, старшыня, калгасьнік |
| 6. | Талачынскі | МТС | | 6 | 1932 | Аграномы, трактарысты |
| | | к-с «Чырвоны Кастрычнік» | | 9 | 1932 | Калгасьнікі, трактарыст |
| | | к-с «Новае жыцьцё» | | 3 | 1932 | Калгасьнікі, адзінаасобнік |
| | | к-с імя Калініна | | 6 | 1932 | Старшыня, калгасьнікі |
| | | к-с «Васількі» | | 11 | 1932 | Заг.поштай, калгасьнікі, адзінаасобнік |
| | | к-с «Чырвоны земляроб» | | 6 | 1932 | Адзінаасобнік, калгасьнікі |
| 7. | Віцебскі | МТС с/с «Банонь» | | 6 | 1932 | Аграномы, землямеры |
| 8. | Сіроцінскі | МТС | | 7 | 1932 | Аграномы, брагадзір, калгасьнікі |
| 9. | Расонскі | МТС | | 9 | 1932 | Аграномы, мэханікі, трактарыст |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 10. | к-с імя VI Зьезду Саветаў | | 4 | 1932 | Калгасьнікі, рахункавод |
| 11. Горацкі | МТС | | 16 | 1932 | Мэханікі, кавалі, трактарысты |
| 12. Дубровенскі | РКС | | 4 | 1932 | Інспэктар, бугальтар, аграном |
| | к-с «Коминтерн», к-с імя Карла Маркса | | 7 | 1932 | Сакратар сельсавета, старшыня, калгасьнікі |
| | к-с «Чырвоны будаўнік» | | 12 | 1932 | Сакратар сельсавета, калгасьнікі |
| | к-с «Марат» | | 5 | 1932 | Старшыня, калгасьнікі |
| | к-с «Іскра Ільліча» | | 5 | 1932 | Старшыня, калгасьнікі |
| | к-с «Перамога» | | 9 | 1932 | Калгасьнікі |
| | к-с «Бальшавік» | | 3 | 1932 | Старшыня, калгасьнікі |
| | к-с «Прамень» | | 16 | 1932 | Старшыня, брыгадзір, калгасьнікі |
| | к-с «Перамога» | | 12 | 1932 | Старшыня, калгасьнікі |
| | с/с «Ударнік» | | 10 | 1932 | Інструктар, калгасьнікі |
| | к-с «Першае мая» | | 7 | 1932 | Старшыня, поп, калгасьнікі |
| 13. Полацкі | МТС | (Жылінскі У.П.) | 30 | 1932 | Аграномы, мэханік, калгасьнікі, брыгадзір |
| **Па ўсім раёне** | | | **49** | **1933** | |



| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 14. Ветрынскі | МТС | (Сярэдзіч А.М.) | 37 | 1932 | Мэханікі, аграномы, старшыня, калгасьнікі |
| 15. Дрысенскі | Баркоўская МТС | | 20 | 1932 | Калгасьнікі, адзінаасобнікі |
| | Каханоўскі с/с | | 14 | 1932 | Аграном, калгасьнікі, адзінаасобнікі |
| | МТС | | 17 | 1932 | Калгасьнікі, адзінаасобнік, трактарыст |
| 16. Асьвейскі | МТС | | 14 | 1932 | Аграном, трактарыст, калгасьнікі |
| 17. Дзяржынскі | Дзяржынская МТС | | 24 | 1932 | Ст.аграном, агратэхнік, мэханікі, заатэхнікі |
| 18. Заслаўскі | МТС | | 22 | 1932 | Аграном, калгасьнікі, адзінаасобнікі |
| 19. Капыльскі | МТС | | 9 | 1932 | Агратэхнікі, трактарысты |
| 20. Жыткавіцкі | МТС | | 7 | 1932 | Аграномы, калгасьнікі |
| 21. Гомельскі | МТС | | 2 | 1932 | Аграномы |
| 22. Жлобінскі | МТС | | 1 | 1932 | Ст.аграном |
| 23. Пухавіцкі | МТС | | 8 | 1932 | Ст.аграном, мэханік, бугальтар, касір |
| | с/с «Залогпяцігодкі» | | 1 | | |
| | с/с «Велень» | | 2 | | |
| **Па ўсім раёне** | | | **120** | **1933** | |
| 24. Слуцкі | МТС | | 5 | 1932 | Аграномы, землеўладкавальнік |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 25. Барысаўскі | Прыямская МТС | | 6 | 1932 | Бугальтар, тэхнік, рахункавод |
| 26. Лагойскі | Швабскі с/с | (Ціхановіч І.І.) | 59 | 1933 | Калгасьнікі |
| 27. Петрыкаўскі | Па ўсім раёне | | 29 | 1932 | Старшыня, калгасьнікі, адзінаасобнікі, вэтфэльчары |
| 28. Бягомальскі | к-с «Беларусь» | | 15 | 1932 | Калгасьнікі, адзінаасобнікі, старшыні |
| 29. Крупскі | м.Бабры | | 7 | 1932 | Вэтлекар, кладаўшчык, вэтфэльчар, адзінаасобнікі |
| | с/с «Анатопаль» | | 2 | 1932 | |
| | с/с «Каменка» | | 1 | 1932 | |
| 30. Быхаўскі | с/с «Чырвоны маяк» | | 4 | 1932 | Дырэктар, сакратар |
| 31. Аршанскі | к-с «Ударнік» | | 4 | 1932 | Сяляне (калгасьнікі, адзінаасобнікі) |
| 32. Красна-Слабодзкі | с/с «Старчыцы» | | 4 | 1932 | Сьвінавод, вэтлекары |
| 33. Ельскі | с/с «Добрынь» | | 1 | 1932 | Дырэктар |
| 34. Менскі | с/с «Горкі Апчак» | | 5 | 1932 | Вэтлекар, сяляне |
| 35. Чэрвеньскі | | | 15 | 1932 | Вэтлекары, сяляне |
| 36. Дубровенскі | Па ўсім раёне | (Рокіс І.І.) | 159 | 1933 | Калгасьнікі |
| 37. Краснапольскі | Па ўсім раёне | (Кустоў П.І.) | 38 | 1933 | Сяляне, адзінаасобнікі |
| 38. Мазырскі | Па ўсім раёне | | 197 | 1933 | |
| | | | 50 | 1933 | |
| 39. Парыцкі | Па ўсім раёне | | 80 | 1933 | |



| | | | |
|---|---|---|---|
| 40. Глускі | Па ўсім раёне | 84 | 1933 |
| 41. Камарынскі | Па ўсім раёне | 50 | 1933 |
| 42. Рэчыцкі | Па ўсім раёне | 26 | 1933 |
| 43. Чачэрскі | Па ўсім раёне | 56 | 1933 |

** Архіў КДБ РБ. Спр. 11070-с, спр.10333-с, спр.7458-с, 21002, Архіў МБ РФ.*

### *3. АЧЫСТКА ЗАХОДНІХ РУБЯЖОЎ БССР АД «КЛЯСАВА-ВАРОЖЫХ ЭЛЕМЭНТАЎ»*

Асабліва пільна кулакоў шукалі ў памежных раёнах СССР. Шмат сялян зь Ленінградзкай пагранічнай зоны, Украіны, Беларусі мелі родных у Польшчы, Літве, Латвіі. Ніякія забароны не маглі перашкодзіць людзям абменьвацца хоць і кароткімі вестачкамі аб сваім жыцьці. Цяжкае матэрыяльнае становішча сялянства ў калгасах, масавае раскулачваньне не спрыялі складаньню ў сялян дэмакратычных краінаў добрага ўражаньня ад «пабудовы сацыялізму» ў СССР. Каб больш шчыльна замкнуць граніцы СССР, у другой палове 30-х гадоў органы НКВД правялі маштабную апэрацыю па ачысткы «пагранпаласы» ад «кулацкага і антысавецкага элемэнту ў парадку рэпрэсіяў». Толькі ў 1935 г. зь Ленінградзкай памежнай вобласьці было выселена 5100 сем'яў, з Карэліі — 316, Кіеўскай і Віньніцкай вобласьцяў УССР — 8329, іншых памежных вобласьцяў Украіны — 2000 сем'яў.[220]

Ва Ўсходняй Беларусі ворагаў шукалі ня менш старанна. 27 чэрвеня 1935 г. з Масквы ў Менск на імя камісара НКВД БССР Ляплеўскага прыйшла сакрэтная дырэктыва. «Вам неабходна правесьці наступныя мерапрыемствы па ачыстцы пагранічных акругаў і раёнаў БССР: 1.Арыштаваць актыўны кулацка — варожы элемэнт... Справы, па якіх матэрыялаў будзе недастаткова для накіраваньня ў судовыя органы — ставіць на Тройку НКВД БССР. Па справах гэтых абвінавачаных выносіць рашэньні аб высяленьні іх у спэцпасёлак разам зь

[220] *Цэнтральны Архіў МБ РФ.*

сем'ямі, уключаючы іх у агульны кантынгент выселеных. 2.Высяліць з пагранпаласы БССР дзьве тысячы сем'яў антысавецкага недабранадзейнага элемэнту... 6.Выселеных накіроўваюцца: 600 сем'яў — у Паўночны Казахстан і 1400 сем'яў — у Паўночны край».[221]

Днём раней, 26 чэрвеня 1935 г. ЦВК і СНК БССР прынялі сакрэтную пастанову аб устанаўленьні асобага рэжыму ў 500—мэтровай зоне граніцы (Пастанова № 1150-С).[222] Згодна ёй, тут забаранялася жыць «антысавецкім элемэнтам». 4 і 5 ліпеня ЦК КП(б)Б разгледзела пытаньне аб высяленьні і прыняло дзьве сакрэтныя пастановы «Аб умацаваньні аховы граніц і ачыстцы пагранраёнаў ад антысавецкіх элемэнтаў» і «Аб праверцы асабістага складу пагранічных акруг і раёнаў».[223] Цяпер высяленьне, якое праводзілася НКВД, павінны былі кантраляваць партыйныя органы.

Але яшчэ 17 чэрвеня 1935 г. мясцовыя кіраўнікі органаў НКВД БССР атрымалі сакрэтны загад: «у хуткім часе адбудзецца праверка ўсяго асабістага складу, уключаючы тэхнічны апарат ва ўсіх савецкіх, каапэратыўных і іншых арганізацыях усіх пагранічных раёнаў. У сувязі з гэтым прапануецца пад вашу пэрсанальную адказнасьць падрыхтаваць усе матэрыялы, што характарызуюць работнікаў з пункту гледжаньня іх палітычнай дабранадзейнасьці. Для гэтай мэты праверце ўсе матэрыялы, якія ёсьць ў апаратах НКВД, выкарыстайце ўсе агентурна-апэратыўныя магчымасьці для атрыманьня новых дадзеных, а таксама атрымайце матэрыялы ў сакратароў партарганізацыяў і парторганаў. Уся гэтая праца павінна быць праведзеная кансьпіратыўна, неафіцыйным парадкам».[224]

Пачалося інтэнсіўнае выяўленьне «антысавецкага элемэнту». У сьпісы недабранадзейных у першую чаргу залічалі тых, хто меў сваякоў за межамі СССР і падтрымліваў зь імі сувязі. Не абыходзілі ўвагай і заможных сялян, асабліва пры-

[221] *Архіў КДБ РБ.*

[222] *НА РБ. Ф.4. Воп.21, спр.910, арк.168.*

[223] *Архіў КДБ РБ, НА РБ. Ф.4. Воп.3, спр.249, арк.49.*

[224] *Архіў КДБ РБ.*



ватных уласьнікаў. Па выніках зробленай працы 14 верасьня 1935 г. СНК БССР і ЦК КП(б)Б прынялі чарговую, таксама зусім сакрэтную пастанову «Аб перасяленьні жыхароў з 500—мэтровай пагранпаласы».[225] З хутароў і дробных населеных пунктаў памежнай зоны БССР высялялася 774 гаспадаркі калгасьнікаў і 113 гаспадарак адзінаасобнікаў. НКВД склаў нават сьпісы населеных пунктаў, якія падлягалі перасяленьню. Гэтыя сьпісы таксама былі зацьверджаныя вышэйшымі органамі савецкай дзяржавы і камуністычнай партыі.

У 1935-36 гадах высяленьне з памежнай зоны яшчэ адназначна не азначала выселкі з БССР. Меркавалася, што скаціну, хатні скарб і хлебапрадукты перасяленцаў (астатнюю маёмасьць трэба было прадаваць) проста перавязуць на новае месца жыхарства ці ў межах аднаго раёну, ці ў межах БССР.

Перасяленьне закранала 30 раёнаў БССР. Каб «ахапіць» усю зону высяленьня, адказнымі за парадак былі асабіста старшыня райвыканкаму, сакратар райкаму і начальнік пагранатраду, на тэрыторыі якога адбывалася перасяленьне. Афіцыйна вырашалі перасяляць сялянаў з 14 раёнаў.

Канчаткова скончыць высяленьне было загадана да 15 сакавіка 1936 году. Як правіла, у гэты час на тэрыторыі Беларусі пачынаецца вясновая сяўба, а рабочыя рукі перасяленцаў зусім не былі лішнімі. Каб да перасяленьня людзі ставіліся больш прыязна, дзяржава выдавала кожнай калгаснай сям'і, якая пераяжджала ў другі раён, 300 рублёў, сялянам-прыватнікам — 175. Тыя, хто заставаўся ў раёне, атрымлівалі па 150 руб. На перасяленьне з фондаў СНК выдзялялася 600 тыс. рублёў.

Палітычная афарбоўка перасяленьня вельмі моцна адрозьнівалася ад рэальнай. Старшыні райвыканкамаў павінны былі тлумачыць усім («правесьці шырокую палітычую тлумачальную працу»), што высяленьне зьвязанае зь неабходнасьцю ачысьціць канкрэтную памежную паласу для правядзеньня тэхнічных мерапрыемстваў «з мэтай большага ўмацаваньня дзяржаўнай граніцы і ўмацаваньня асабістай бясьпекі саміх пе-

[225] *НА РБ. Ф.4. Воп.21, спр.910, арк.168.*

расяленцаў».[226] Цікава, што ў тэксьце пастановы, якая была раздрукаваная ў колькасьці 64 экзэмпляраў і разасланая па раёнах, замест «укрепления» памылкова надрукавана было «устранения личной безопасности». Выпадковая памылка больш адпавядала рэчаіснасьці.

Апэрацыя па высяленьні «недабранадзейнага элемэнту з памежнай паласы» прайшла пасьпяхова. 7 жніўня 1935 г. кіраўнік НКВД БССР дакладаў сакратарам ЦК КП(б)Б: «Паведамляю, што зь сёньняшняга дня скончаная адпраўка выселеных з пагранічнай паласы антысавецкіх недабранадзейных элемэнтаў. Адпраўлена 10 эшалёнаў, зь іх 7 у Паўночны край і 3 у Казахстан. Усяго выселена 1979 сем'яў у складзе 9877 чалавек, зь іх: мужчын — 2799, жанчын — 2828, дзяцей — 4450. Разам зь імі адпраўлена 777 галоў жывёлы, зь іх 250 коней і 527 кароў».[227]

Як бачым, НКВД аказаўся больш прадбачлівым у падліку колькасьці ворагаў, чым ЦК КП(б)Б і СНК БССР. Наконт таго, чаму выкананы загад Ягоды, а не пастановы ЦК і СНК, можна сказаць наступнае. З аднаго боку, гэта гаворыць аб «самастойнасьці» беларускага партыйна-дзяржаўнага кіраўніцтва. З другога боку, хоць пастановы ЦК і СНК былі сакрэтныя, пра іх ведала шмат людзей. Мабыць дзеля таго, каб зьменшыць маштабы апэрацыі, і прыняў ЦК КП(б)Б і СНК БССР у 2 разы меншыя лічбы, чым меркавалася «ачысьціць». Бо цяжка было даказаць людзям неабходнасьць такога «тэхнічнага» ўмацаваньня мяжы.

Умацаваньне памежнай паласы не было абмежаванае толькі высяленьнем «недабранадзейных элемэнтаў». У той жа дзень, 14 верасьня, СНК БССР і ЦК КП(б)Б прынялі яшчэ адну пастанову «Аб вэрбоўцы 2000 калгасьнікаў у пагранраёны»[228] (пастанова № 1542/170). Згодна ёй, у 81 раёнах БССР вэрбаваліся добраахвотнікі для жыцьця і працы ў памежнай зоне. Накіроўваліся туды людзі надзейныя і правераныя — ня менш за 10% камуністаў, 10% камсамольцаў і «лепшых, надзейных узорных

[226] *Тамсама, арк.168, адв.*
[227] *Архіў КДБ РБ.*
[228] *НА РБ. Ф.4. Воп.21, спр.910, арк.166.*



калгасьнікаў — актывістаў, якія маюць ня менш за тры гады стажу работы ў калгасе».[229]

Агітаваць — дык агітаваць. Кожнаму перасяленцу абяцалі падрыхтаваную для жыцьця сядзібу — хату, гаспадарчыя пабудовы і агарод. На месца перасяленьня — дастаўка за кошт дзяржавы і ня толькі людзей, але і жывёлы, хатняй маёмасьці, збожжа. Кожнай сям'і акрамя гэтага выдадуць яшчэ 500 рублёў (грошы на той пэрыяд для калгасьніка амаль казачныя). Калгасы, у сваю чаргу, поўнасьцю разьлічацца зь перасяленцамі — выдадуць усе працадні «натурай», а паявы ўзнос перавядуць у калгас па новым месцы жыхарства.

Каб усё ж паменшыць выдаткі на перасяленьне, разгарнулі агітацыю сялян за тое, каб многа ня везьці з сабой, маўляў, на новым месцы ўсяго будзе, а лепей прадаць зерне ды сена. Бульбу здаць дзяржаўным нарыхтоўчым органам з абяцаньнем выдаць такую ж яе колькасьць у памежнай зоне.

Для кантролю за агітацыяй і адборам перасяленцаў (бо жадаючых у некаторых раёнах было дастаткова, асабліва сярод сялянскай бядноты) складаліся спэцыяльныя камісіі ў складзе старшыні райвыканкаму, сакратара райкаму КП(б)Б і начальніка раённага аддзяленьня НКВД.

Быў дэталёва распрацаваны мэханізм пераезду і ўладкаваньня перасяленцаў. Да 20 студзеня 1936 г. старшыні райвыканкамаў разам з дырэктарамі МТС і пагранічнікамі павінны былі аб'ехаць кожную гаспадарку, што прызначалася да высяленьня ў памежнай зоне. Рабілася гэта больш з мэтай высьветліць, ці можна ў «кулацкія» дамы пасяліць новых гаспадароў. Старшыні райвыканкамаў таксама павінны былі вызначыць пагранічныя калгасы, якія найменш забясьпечаныя працоўнай сілай, высьветліць, колькі сем'яў патрабуецца для арганізацыі нармальнай працы. Старшыня выканкаму асабіста (даручаць каму-небудзь гэтую справу не дазвалялася) складаў сьпісы высяленцаў, яны пазьней зацьвярджаліся бюро райкаму КП(б)Б і да канца студзеня асабіста старшынём дастаўляліся ў ЦК КП(б)Б і камісарыят земляробства БССР.

Да гэтага часу старшыні райвыканкамаў «тылавых» раёнаў

[229] *Тамсама.*

павінны былі прывесьці сьпісы «абсалютна правераных людзей».[230] Потым спэцыяльныя ўпаўнаважаныя з членаў бюро ці райкамаў КП(б)Б павінны былі растлумачыць завэрбаваным, у якую гаспадарку яны накіроўваюцца, якія там умовы для жыцьця, адказаць на любыя пытаньні перасяленцаў. Адказнасьць за перасяленьне і высяленьне ЦК усклала на К.Бенека, у той час камісара земляробства, і начальніка спэцаддзела Наркамзема БССР А.Лубнеўскага.

У пагранатрады для праверкі работ па перасяленьні былі накіраваныя 15 начальнікаў спэцаддзелаў Белкаўтрэсту, Белнафтазбыту, Наркамгасу, Белмэталтрэсту, Гідрамэтслужбы, іншых дзяржаўных установаў. Праверку праводзілі таксамаі спэцыяльныя ўпаўнаважаныя ЦК КП(б)Б у колькасьці 30 чалавек.

Пастанова аб перасяленьні была выкананая (гл. табл. 14). Ужо 23 сакавіка 1936 г. А.Лубнеўскі рапартаваў пра тое, што ў памежную зону накіравана 1779 сем'яў. «Незавэрбаваныя і непераселеныя 222 гаспадаркі, па дадзеных райвыканкамаў, будуць пераселеныя да 1.04.36 году»,[231] — абяцаў ён кіраўніцтву рэспублікі.

Абяцаньні, дадзеныя падчас вэрбоўкі, аказаліся нявыкананымі. Колькасьць грошаў на сям'ю зьнізілі да 250 руб., а цёплая сустрэча на новым месцы наогул засталася на паперы. «Дадзеныя, якія мы маем, указваюць на тое, што ў шэрагу пагранічных раёнаў пэўнай падрыхтоўчай працы да прыёму перасяленцаў — калгасьнікаў не было»,[232] — адразу паведамілі з НКВД сакратару ЦК КП(б)Б М.Гікалу. Людзей у зіму і холад сялілі ў неадрамантаваныя хаты, па некалькі сем'яў у адну. Шмат хто зь перасяленцаў прыехаў бяз мэблі, неабходных для хатняй гаспадаркі прылад, запасаў бульбы, насеньня. Людзі спадзяваліся, што ўсім гэтым іх забясьпечаць на новым месцы.

Тыя ж, хто ўзяў з сабой жывёлу, таксама апынуліся ня ў лепшым стане: у прадастаўленых для жыцьця дамах часта не было хлявоў, скаціну трымалі ў калідорах, а часам і ў самой хаце.

[230] *НА РБ. Ф.4. Воп.21, спр.910, арк.94.*
[231] *Тамсама, арк.183.*
[232] *НА РБ. Ф.4. Воп.21, спр.910, арк.141.*



Катастрафічна не ставала кармоў. Асноўная маса перасяленцаў накіроўвалася ў адсталыя калгасы, чакаць дапамогі тут ні ад кіраўніцтва, ні ад калгасьнікаў не даводзілася.

Перасяленцы пісалі родным: «Паведамляю, што нас паслалі не на жыцьцё, а ў турму. Я тут ня маю надзеі жыць, бо ўмовы вельмі кепскія, калгас развалены, інвэнтар паламаны, і нічога добрага наогул няма. Так што чакайце мяне хутка».[233] Гэтак коратка ахарактарызаваў сваё стаўленьне да перасяленьня Зьміцер Баханькоў з калгасу імя Фрунзэ Ветрынскага раёну. Такіх лістоў НКВД перахоплівала штодня. ЦК спрабавала выправіць становішча, у раёны памежнай зоны накіроўваліся адна за адной розныя камісіі, але — дарма. «Нам ніводная арганізацыя не дапамагае, колькі не прыяжджала раённых работнікаў правяраць нашае жыцьцё, ніхто не цікавіўся намі і не дапамог, а толькі п'янствавалі са старшынём калгасу»,[234] — скардзіліся сяляне калгасу «Рассвет» Красна-Слабодзкага раёну ў Сьмілавіцкі райвыканкам. І прасілі іх вярнуць дадому.

Ужо ў траўні 1936 г. НКВД дакладаў у ЦК КП(б)Б аб «найбольш характэрных фактарах адмоўных настрояў сярод перасяленцаў»: «Жыткавіцкі раён (калгас «Нова-Леніна»). Перасяленец Ярмоленка сярод калгасьнікаў гаварыў: «Калі б я ня быў актывістам, мяне сюды ніхто б не завёз. Я ўпэўнены, што з нашых жыхароў тут далей восені ніхто не пражыве». Тураўскі раён (калгас вёскі Малое Малішава). Перасяленец Пінчук Мікалай казаў калгасьнікам: «Мяне ўтрымлівае хворая жонка, а то зараз жа ад'ехаў бы назад. Тут гразь і вада. Дурань, што сюды прыехаў». Дрысенскі раён (калгас «Пролетарий»). Перасяленцы Ляўкоў і Зоркін, незадаволеныя эканамічным станам калгаса, лічаць сябе абманутымі і на працу не выходзяць. Абодва маюць намер выехаць назад».[235] Нават калгасьнікі-актывісты страчвалі надзею на тое, што савецкая ўлада накіраваная на паляпшэньне жыцьця селяніна.

Адносіны да перасяленцаў з боку мясцовага насельніцтва нельга назваць добрымі. Па-першае, прыехалі яны здалёк бяз хат-

[233] *Тамсама, арк.143.*
[234] *Тамсама, арк.144.*
[235] *НА РБ Ф.4. Воп.21, спр.910, арк.117.*

няй маёмасьці, жывёлы, выглядалі незаможна. Па-другое, усялялі іх у дамы былых «кулакоў», а людзі ж добра ведалі, якія яны «ворагі». Перасяленцаў называлі «валацугамі», «галадранцамі», «лайдакамі», адмаўлялі ў суседзкай дапамозе. Ня лепей ставілася да іх і кіраўніцтва памежных калгасаў, якое зусім не жадала «абмену» калгасьнікаў. Гэтак, старшыня калгасу «КІМ» Красна-Слабодзкага раёну на заяву аб дапамозе адказаў: «Мы вас не прасілі сюды прыяжджаць, хто вас прыслаў, той хай і ставіць вам дамы».[236] А загадчыца фэрмы ў адмовілася даць малака нават дзецям перасяленцаў: «Малака даць не магу, яно патрэбнае для цялят і здачы дзяржаве».[237]

Пачаўся саматужны ад'езд сялян з пагранраёнаў. Ужо ў траўні 1936 г. з Заслаўскага раёну ўцякло 4 сям'і, з Дрысенскага — 2, зь Дзяржынскага — 1 і г.д. Ад'яжджалі ўноч, забіралі з сабой толькі самае неабходнае, каб не прымусілі застацца. Летам уцёкі сталі масавымі, бо лепей было ехаць. У жніўні з таго ж Дзяржынскага раёну зьехала 12 сем'яў, з Узьдзенскага — 14, Плешчаніцкага — 22, Дрысенскага — 24.[238]

Але вярнуцца дадому было зусім ня проста. Ніякіх дакумэнтаў у сялян не было, а даведку сельсавету, вядома, ніхто ім даваць не зьбіраўся. Акрамя таго, патрабаваўся дазвол на вяртаньне раённых выканаўчых органаў на былым месцы жыхарства. Паколькі перасяленьне разглядалася як важная палітычная кампанія, станоўчыя адказы на шматлікія лісты з просьбай аб дазволе на вяртаньне ніхто не адважваўся даваць. Адзін з такіх лістоў НКВД нават накіравала ў ЦК КП(б)Б асабіста М.Гікалу — «на Вашае меркаваньне». 15 сем'яў, завэрбаваных у Смалявіцкім раёне і накіраваных у калгас «Новы Шлях» Красна-Слабодзкага раёну, у ліпені 1936 г. пісалі з адчаем у Смалявіцкі раённы аддзел НКВД: «Дзякуем Вам за тое, што далі нам добрае жыцьцё за нашу стаханаўскую працу, за тое, што мы так сталі за савецкую ўладу агрудзямі. Нам так прыходзіцца пакутаваць бяз хлеба і без вады, у хаты паўсаджвалі, што ў некаторых і сесьці няма дзе, хлявоў няма, стаіць скаціна пад адкрытым небам. Вы нам казалі, што ўсё гатовае, як хаты, так і халодныя прыбудовы, а тут нічога няма. І яшчэ людзі ставяцца дрэнна, кажуць: «валацакі, чаго вы прыпаўзьлі да нас, вы нам непатрэбныя», і круцяць нам з працаднямі... Калі не дазволіце нам вярнуцца ў Смалявіцкі раён, дык выраШым свой лёс, нам зараз і сьмерць ня страшная, але ж дзетак не пакінем пакутаваць на чужыне, хай ляжаць з намі разам у магіле».[239]

*[236] Тамсама, арк.142.*

*[237] Тамсама, арк.118.*

*[238] НА РБ. Ф.4. Воп.21, спр.910, арк.145.*



Рэагаваньне на ліст перасяленцаў было тыповым. Для разбору скаргі ў раён выехаў інструктар сельгасаддзелу ЦК КП(б)Б. Ён канстатаваў: «Перасяленцы былі разьмешчаныя: 4 сям'і часова паселеныя ў бліжэйшых пасёлках калгасу, а астатнія 6 сем'яў і 5 адзіночак у новым калгасным пасёлку, пабудаваным з 12 хат у цэнтры калгасу. Адзіночкі разьмешчаныя і разам зь сем'ямі прыехаўшых калгасьнікаў. Усе хаты дастаткова прыстасаваныя для жыцьця, але ў трох кватэрах няма падлогі, а ў адной няма столі. Да будаўніцтва надворных прыбудоваў — хлявоў для скаціны яшчэ не прыступалі. У пасёлку неабходна пабудаваць два калодзежы, бо вадой калгасьнікам прыходзіцца карыстацца з калодзежу, што знаходзіцца ў чвэрці кілямэтра ад пасёлка».[240] Аднак інструктар зьвярнуў увагу болей на «кулацкія» настроі незадаволеных: калі тыя жылі ў Смалявічах, паблізу ад Менску, дык маглі адвезьці туды лішкі сельскагаспадарчай прадукцыі і з прыбыткам прадаць. А ў пагранраёне, вядома, такой магчымасьці не было. Таму інструктар растлумачыў калгасьнікам — перасяленцам шкоднасьць такіх «кулацкіх» замашак, атрымаў ад старшыні абяцаньне як мага хутчэй адрамантаваць дамы і палічыў канфлікт вырашаным. Аб чым і паведаміў у ЦК. Ніхто не атрымаў дазволу на вяртаньне, а асабліва ўпартыя былі ўзятыя на ўлік у НКВД — да новай кампаніі па ачыстцы памежнай зоны, якая не вымусіла доўга сябе чакаць.

У 1937-38 гг. апэрацыя па ачыстцы памежнай зоны БССР атрымала сапраўднае другое дыханьне. У сувязі з выкрыцьцём разгалінаванага «аб'яднанага антысавецкага падпольля» ў БССР ораганамі НКВД было вызначана, што «цэнтар контаррэвалюцыйнай арганізацыі, якая кіруецца польскімі і нямецкімі органамі

*[239] Тамсама, арк.100.*

*[240] НА РБ. Ф.4. Воп.21, спр.910, арк.96*

выведкі, разам з правядзеньнем шкодніцка — дывэрсійнай работы ва ўсіх, без выключэньня, галінах народнай гаспадаркі шырока разгортваў і беспакаральна праводзіў практычную контаррэвалюцыйную дзейнасьць ў памежных раёнах БССР».[241] Жахлівым выглядае тлумачэньне рэпрэсіяў супраць сялянства, якія праводзіліся на тэрыторыі Беларусі, і ў тым ліку ў памежных зонах, са згоды на загад дзяржаўных і партыйных органаў, абаронай інтарэсаў дзяржаўнай бясьпекі, выкрыцьцём шпіёнскай дзейнасьці спэцслужбаў суседніх краінаў. У кастрычніку 1937г. кіраўнік НКВД БССР Б.Берман пісаў у ЦК КП(б)Б: «Имевшая место в прошлом практика грубейших беззаконий и гнуснейших издевательств над крестьянами Белоруссии, проводимая по заданию поляков, участниками контрреволюционной организации, — в очень больших размерах применялась особенно в приграничных районах.»[242]

У гэты час у БССР налічвалася 29 памежных раёнаў, якія зьяўляліся ўжо забароненай зонай з асобным рэжымам. Найбольш небясьпечнай, а таму асобай увагі, лічылася не 500-мэтровая паласа, а зона ў 7,5 кілямэтраў. Таму маштабы рэпрэсіяў 1935-36 гг. падаліся органам НКВД незадавальняльнымі.

Рэпрэсіі супраць сялян, якія жылі ў памежнай зоне асабліва ўзмацніліся ў жніўні 1937 г. Каб выканаць як мага лепей апэратыўны загад камісара НКВД СССР М.Яжова аб узмацненьні барацьбы з антысавецкім і шпіёнскім элемэнтам, у памежных раёнах адбыліся масавыя арышты. Арыштоўвалі былых кулакоў (бо «не былых» ужо не існавала), «актыўны антысавецкі і крымінальна-бандыцкі элемэнт». Ужо на 20 кастрычніка 1937 г. паводле рашэньня Тройкі НКВД БССР было расстраляна 1210 чалавек, а 2066 адпраўленыя на розныя тэрміны ў канцэнтрацыйныя лягеры.[243]

На загад Яжова, сем'і рэпрэсаваныях не рэпрэсаваліся, гэта значыць, маглі заставацца на сваіх месцах жыхарства, але ў загадзе было невялікае выключэньне — для тых, хто здольны займацца актыўнымі антысавецкімі дзеяньнямі. Пры жаданьні ў гэ-

[241] *НА РБ. Ф.4. Воп.21, спр.1098, арк.96.*
[242] *Тамсама.*
[243] *НА РБ. Ф.4. Воп.21, спр.1098, арк.98.*



тую катэгорыю можна было залічыць любога члена зь сем'яў, нават немаўля. Увосень 1937 г. з памежных зон Беларусі падлягалі высылцы за межы БССР больш за 12 тыс. чалавек. І хоць згодна загаду Яжова высяленьне павінна было тычыцца толькі сем'яў рэпрэсаваных па І катэгорыі і праходзіць у межах рэспублікі, для БССР зрабілі выключэньне: сем'і рэпрэсаваных і па І, і па ІІ катэгорыях высяляліся «ў аддаленыя раёны СССР».

Склад сем'яў, якіх пачалі высылаць, дадзены ў табліцах 15 і 16. Радзіму пакідалі больш за 3300 дзяцей да 8 гадоў і 3400 дзяцей з 8 да 15 гадоў — з агульнай колькасьці высыланых больш за палову! З раёнаў найбольш пацярпелі Мазырскі і Капыльскі раёны, зь якіх высылалася амаль тысяча жыхароў (1019 чал. і 981 чал. адпаведна).

Асабліва хочацца адзначыць малы — у сярэднім 3 чалавекі — склад рэпрэсаваных сем'яў. Рэч у тым, што людзі, імкнучыся зьберагчы блізкіх ад арышту, забіралі сваякоў да сябе.

Праз год, ужо пры новым кіраўніцтве НКВД БССР, ачыстка памежнай зоны БССР ад «недабранадзейных элемэнтаў» пашырылася. Камісар НКВД БССР Наседкін у пачатку жніўня 1938 г. інфармаваў сакратара ЦК КП(б)Б П.Панамарэнку: «Да сёньняшняга дня ў памежных раёнах рэспублікі пражывае значная колькасьць былых кулакоў, сэктантаў, удзельнікаў банд, эсэраў, бундаўцаў, асобаў, зьвязаных з Польшчай і інш. антысавецкіх элемэнтаў.»[244] Кола недабранадзейных пашыралася за кошт касьцёльнага актыву, баптыстаў, габрэйскіх рабінаў і проста вернікаў. Органы НКВД знайшлі ў Менскай памежнай вобласьці больш за 1000 чалавек антысавецкага элемэнту, у Палескай — каля 800, у раёнах Віцебскай вобласьці — каля 1300. У памежнай зоне БССР таксама засталіся 8 тыс. членаў сем'яў рэпрэсаваных, зноў выяўленых НКВД.[245] Штуршком для пашырэньня рэпрэсіяў стала адмаўленьне ад удзелу ў выбарах у Вярхоўны Савет БССР, якія адбыліся 26 чэрвеня 1938 г. У Дрысенскім памежным раёне адмовіліся галасаваць 34 чал., у Старадароскім — каля 500 сялянаў. Аналягічныя факты мелі месца і ў іншых раёнах.[246]

[244] *НА РБ. Ф.4. Воп.21, спр.1391, арк.1.*
[245] *Тамсама, арк.1—2.*
[246] *Тамсама.*

Каб узмацніць памежны рэжым і «палітыка-эканамічна» ўмацаваць памежныя раёны, НКВД прапанаваў шэраг мерапрыемстваў — передачу ў выключнае валоданьне пагранахоўы 50-ці мэтровай паласы ўздоўж лініі мяжы, высечку ўздоўж мяжы ў лесе 50-ці мэтровай просекі, дадатковага стварэньня 12 МТС, пабудавы новых дарог, «сьцягваньне» хутароў. У 22-х кілямэтровую памежную паласу забараняўся ўезд усім, акрамя яе жыхароў, сюды цягнікі прыходзілі толькі ўдзень. Гэтыя і іншыя захады, зьвязаныя з умацаваньнем пажарнай бясьпекі ў памежных раёнах, тэхнічным аснаджаньнем (патрабавалася 2 тыс. тон калючага дроту, 1 тыс. кілямэтраў тэлефоннага кабэлю, 2 тоны цьвікоў) выклаў наркам НКВД Наседкін у дакладной запісцы на імя сакратара ЦК КП(б)Б Панамарэнкі. «Узбудзіць хадайніцтва перад СНК СССР аб высяленьні з памежных раёнаў за межы БССР сем'яў рэпрэсаваных, контаррэвалюцыйных і паўстанцкіх элемэнтаў і ўсіх асоб, якія маюць сваяцкія сувязі з Польшчай і Латвіяй»,[247] — гэтыя радкі з дакладной падаліся адрасату найбольш значнымі і слушнымі — яны, як і прапановы па «сьцягваньні» хутароў, забароне ўезда ў 22-х кілямэтровую зону, былі падкрэсьленыя чырвоным алоўкам з надпісам — «у запіску».

Як быў выкананы гэты загад — дакладна невядома. Органы НКВД, якія спраўна паведамлялі ў ЦК аб выніках сваёй дзейнасьці, перайшлі да больш сур'ёзнай справы — ачысткі ўсёй тэрыторыі БССР ад шпіёнаў і іншых варожых элемэнтаў.

[247] *НА РБ. Ф.4. Воп.21, спр.1391, арк.11.*



**Табліца 14. ПЕРАСЯЛЕНЬНЕ КАЛГАСЬНІКАЎ У ПАМЕЖНУЮ ЗОНУ (СТАН НА 23.03.1936 Г.)***

*1 — № п/п, 2 — Назва раёну, 3 — Плян вэрбоўкі, 4 — Выкананьне, 5 — Раён перасяленьня*

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| 1. | Бешанковіцкі | 30 | 30 | |
| 2. | Віцебскі | 35 | 33 | |
| 3. | Горацкі | 25 | 23 | Асьвейскі раён |
| 4. | Гарадоцкі | 35 | 35 | |
| 5. | Крычаўскі | 25 | 19 | |
| 6. | Клімавіцкі | 25 | 25 | |
| | **Разам:** | **175** | **165** | |
| 7. | Касьцюковіцкі | 30 | 28 | |
| 8. | Лёзьненскі | 25 | 21 | Дрысенскі раён |
| 9. | Магілёўскі | 30 | 30 | |
| 10. | Аршанскі | 25 | 15 | |
| 11. | Сураскі | 35 | 16 | |
| 12. | Чавускі | 25 | 25 | |
| 13. | Сеньненскі | 25 | 20 | |
| 14. | Талачынскі | 25 | 25 | |
| 15. | Чашніцкі | 30 | 30 | |
| | **Разам:** | **250** | **210** | |
| 16. | Сіроцінскі | 40 | 41 | |
| 17. | Шклоўскі | 25 | 25 | Ветрынскі раён |
| 18. | Багушэўскі | 25 | 24 | |
| 19. | Мехаўскі | 35 | 35 | |
| | **Разам:** | **125** | **125** | |
| 20. | Круглянскі | 25 | 25 | |
| 21. | Дрыбінскі | 25 | 25 | Ушацкі раён |
| 22. | Хоцімскі | 25 | 25 | |
| 23. | Халопеніцкі | 25 | 22 | |
| | **Разам:** | **100** | **97** | |
| 24. | Бялыніцкі | 25 | 25 | |
| 25. | Барысаўскі | 35 | 4 | Бягомальскі раён |
| 26. | Буда-Кашалёўскі | 40 | 40 | |
| | **Разам:** | **100** | **69** | |

| | | | |
|---|---|---|---|
| 27. Бярэзінскі | 25 | 18 | |
| 28. Веткаўскі | 45 | 42 | Плешчаніцкі раён |
| 29. Жлобінскі | 30 | 27 | |
| 30. Гомельскі | 50 | 18 | |
| **Разам:** | **150** | **105** | |
| 31. Быхаўскі | 35 | 26 | |
| 32. Бабруйскі | 40 | 33 | |
| 33. Крупскі | 30 | 28 | Лагойскі раён |
| 34. Краснапольскі | 35 | 35 | |
| 35. Асіповіцкі | 35 | 31 | |
| **Разам:** | **175** | **153** | |
| 36. Кармянскі | 25 | 24 | |
| 37. Клічаўскі | 30 | 25 | |
| 38. Прапойскі | 25 | 24 | Заслаўскі раён |
| 39. Пухавіцкі | 25 | 25 | |
| 40. Рэчыцкі | 50 | 34 | |
| 41. Рагачоўскі | 25 | 25 | |
| 42. Церахаўскі | 45 | 45 | |
| **Разам:** | **225** | **202** | |
| 43. Любаньскі | 25 | 25 | |
| 44. Мазырскі | 30 | 30 | |
| 45. Петрыкаўскі | 45 | 43 | Дзяржынскі раён |
| 46. Брагінскі | 45 | 45 | |
| 47. Глускі | 35 | 34 | |
| 48. Журавіцкі | 20 | 20 | |
| **Разам:** | **200** | **197** | |
| 49. Даманаўскі | 35 | 31 | |
| 50. Капаткевіцкі | 30 | 29 | Узьдзенскі раён |
| 51. Парыцкі | 30 | 24 | |
| 52. Нараўлянскі | 30 | 29 | |
| **Разам:** | **125** | **113** | |
| 53. Хойніцкі | 40 | 40 | |
| 54. Увараўскі | 30 | 30 | Капыльскі раён |
| 55. Лоеўскі | 30 | 29 | |
| **Разам:** | **100** | **99** | |
| 56. Камарынскі | 45 | 43 | |
| 57. Смалявіцкі | 25 | 15 | Красна-Слабодзкі |



| | | | |
|---|---|---|---|
| 58. Сьмілавіцкі | 30 | 30 | раён |
| **Разам:** | **100** | **88** | |
| 59. Чачэрскі | 40 | 35 | |
| 60. Сьвяціловіцкі | 30 | 19 | Старобінскі раён |
| 61. Добрускі | 30 | 30 | |
| **Разам:** | **200** | **172** | |
| 62. Чэрыкаўскі | 25 | 25 | Жыткавіцкі раён |
| 63. Чэрвеньскі | 25 | 25 | |
| **Разам:** | **50** | **50** | |
| 64. Старадароскі | 25 | 22 | Тураўскі раён |
| **Усяго па БССР** | **2000** | **1779** | |

* *НА РБ. Ф.4. Воп.21, спр.910, арк.180—183.*

**Табліца 15. ДАДЗЕНЫЯ НКВД АБ СЕМ'ЯХ, РЭПРЭСАВАНЫХ ПА І КАТЭГОРЫІ Ў ПАМЕЖНЫХ РАЁНАХ БССР (НА 20.10.1937 Г.)***

*1 — № п/п, 2 — Назва раёнаў, 3 — Колькасьць сем'яў, 4 — Членаў сем'яў, 5 — У тым ліку дарослых, 6 — У тым ліку дзяцей 8—15 гадоў, 7 — дзяцей да 8 гадоў.*

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Асьвейскі | 6 | 24 | 8 | 11 | 5 |
| 2. | Дрысенскі | 6 | 20 | 11 | 6 | 3 |
| 3. | Полацкі | 23 | 66 | 35 | 20 | 11 |
| 4. | Ветрынскі | 16 | 55 | 26 | 17 | 12 |
| 5. | Ушацкі | 26 | 88 | 42 | 22 | 24 |
| 6. | Бягомальскі | 27 | 116 | 46 | 36 | 34 |
| 7. | Плешчаніцкі | 62 | 221 | 91 | 76 | 54 |
| 8. | Лагойскі | 42 | 197 | 77 | 62 | 58 |
| 9. | Заслаўскі | 79 | 290 | 120 | 107 | 63 |
| 10. | Дзяржынскі | 31 | 103 | 40 | 27 | 36 |
| 11. | Узьдзенскі | 10 | 27 | 14 | 6 | 7 |
| 12. | Капыльскі | 98 | 369 | 171 | 98 | 100 |
| 13. | Красна-Слабодзкі | 52 | 224 | 111 | 72 | 41 |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 14. Старобінскі | 63 | 241 | 95 | 85 | 61 |
| 15. Жыткавіцкі | 45 | 180 | 77 | 47 | 56 |
| 16. Тураўскі | 12 | 29 | 15 | 7 | 7 |
| 17. Лельчыцкі | 53 | 223 | 104 | 64 | 55 |
| 18. Расонскі | 12 | 44 | 24 | 13 | 7 |
| 19. Лепельскі | 47 | 164 | 81 | 46 | 37 |
| 20. Чашніцкі | 33 | 141 | 49 | 48 | 44 |
| 21. Грэсцкі | 15 | 65 | 21 | 26 | 18 |
| 22. Слуцкі | 71 | 290 | 138 | 92 | 60 |
| 23. Любаньскі | 37 | 146 | 54 | 59 | 33 |
| 24. Капаткевіцкі | 15 | 66 | 28 | 25 | 13 |
| 25. Даманавіцкі | 48 | 197 | 81 | 73 | 43 |
| 26. Петрыкаўскі | 71 | 202 | 105 | 57 | 40 |
| 27. Мазырскі | 94 | 330 | 155 | 103 | 72 |
| 28. Ельскі | 27 | 87 | 37 | 33 | 17 |
| 29. Нараўлянскі | 89 | 278 | 129 | 95 | 54 |
| **Разам:** | **1210** | **4483** | **1985** | **1433** | **1065** |

* *НА РБ. Ф.4. воп.21, спр.1098, арк.100—101.*

**Табліца 16. ДАДЗЕНЫЯ НКВД АБ СЕМ'ЯХ РЭПРЭСАВАНЫХ ПА II КАТЭГОРЫІ Ў ПАМЕЖНЫХ РАЁНАХ БССР (НА 20.10.1937 Г.)***

*1 — № п/п, 2 — Назва раёну, 3 — Колькасьць сем'яў, 4 — Членаў сем'яў, 5 — У тым ліку дарослых, 6 — У тым ліку дзяцей 8—15 год, 7 — У тым ліку дзяцей да 8 год*

| 1 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. Асьвейскі | 20 | 69 | 29 | 28 | 12 |
| 2. Дрысенскі | 53 | 195 | 104 | 42 | 49 |
| 3. Полацкі | 141 | 535 | 252 | 160 | 123 |
| 4. Ветрынскі | 37 | 117 | 52 | 33 | 32 |
| 5. Ушацкі | 44 | 144 | 77 | 30 | 37 |
| 6. Бягомальскі | 35 | 142 | 66 | 39 | 37 |
| 7. Плешчаніцкі | 67 | 259 | 86 | 96 | 77 |
| 8. Лагойскі | 78 | 310 | 132 | 92 | 86 |
| 9. Заслаўскі | 77 | 264 | 128 | 88 | 48 |
| 10. Дзяржынскі | 111 | 346 | 174 | 73 | 99 |
| 11. Узьдзенскі | 43 | 171 | 69 | 44 | 58 |
| 12. Капыльскі | 150 | 612 | 281 | 171 | 160 |
| 13. Красна-Слабодзкі | 103 | 403 | 172 | 125 | 106 |
| 14. Старобінскі | 80 | 334 | 125 | 108 | 101 |
| 15. Жыткавіцкі | 33 | 121 | 39 | 56 | 26 |
| 16. Тураўскі | 40 | 127 | 56 | 31 | 40 |
| 17. Лельчыцкі | 77 | 326 | 123 | 107 | 96 |
| 18. Расонскі | 111 | 387 | 211 | 100 | 76 |
| 19. Лепельскі | 75 | 275 | 212 | 77 | 86 |
| 20. Чашніцкі | 85 | 326 | 146 | 97 | 83 |
| 21. Грэсцкі | 11 | 40 | 21 | 13 | 6 |
| 22. Слуцкі | 72 | 255 | 103 | 81 | 71 |
| 23. Любаньскі | 45 | 156 | 63 | 47 | 46 |
| 24. Капаткевіцкі | 22 | 81 | 31 | 20 | 30 |
| 25. Даманаўскі | 51 | 221 | 107 | 67 | 47 |
| 26. Петрыкаўскі | 66 | 229 | 113 | 76 | 40 |
| 27. Мазырскі | 169 | 689 | 322 | 204 | 163 |
| 28. Ельскі | 64 | 197 | 105 | 45 | 47 |
| 29. Нараўлянскі | 79 | 296 | 116 | 94 | 86 |
| **Разам:** | **2?66** | **7623** | **3415** | **1968** | **2244** |



# ЗАКАНЧЭНЬНЕ

Вынішчэньне асновы беларускай нацыі — сялянства — у 30-я гады нашага стагодзьдзя адбывалася ў двух напрамках — ідэалягічным і эканамічным. Задача ператварэньня аграрнай краіны ў індустрыяльную, якую старалася вырашыць камуністычнае кіраўніцтва БССР, мела ў сваёй аснове перш за ўсё клясавы падыход. Гэта азначала поўнае вынішчэньне прыватнай уласнасьці на зямлю і сродкі вытворчасьці. Адбывалася сацыяльная нівэліроўка маёмаснага стану сялян: усе павінны былі жыць у аднолькава небагатых дамах, у адзін час ісьці на працу, аднолькава небагата апранацца і есьці. Тыя, хто не хацеў падпарадкоўвацца, вынішчаліся. Спачатку гэта была сацыяльная група найбольш заможных сялян, потым жорнаў рэпрэсіяў ахапіў і менш багатых, а напрыканцы хваля накрыла і самых бедных сялянаў. Прыналежнасьць да варожага стану разам з маёмасным фактарам вызначала ў той час і нацыянальнасьць — зямлю Беларусі апрацоўвалі польскія, нямецкія, латыскія «шпіёны» і «дывэрсанты». Дастаткова было жыць на граніцы, мець сваякоў за мяжой, каб стаць «ворагам народу». Але найбольш балючае ўражаньне пакідае ліквідацыя беларускіх хутарскіх гаспадарак. Для беларускага селяніна паняцьце радзімы пачыналася з бацькоўскай хаты, саду, што закладзеныя шчэ дзедам, ды свайго поля, хай гэта і невялікі надзел каля хаты. Менавіта таму і завецца Радзіма Бацькаўшчынай — зямлёй Бацькоў.

У маштабах БССР на працягу ўсяго некалькіх гадоў былі разбураныя ня толькі дамы хутаран, але быў вынішчаны цэлы пласт культуры беларускага сялянства. Яно канчаткова стала пралетарскай і паводле формы, і паводле зьместу. І было ўжо ўсё роўна, дзе

жыць — хоць з кітайцамі і карэйцамі на Далёкім Усходзе, хоць у Сібіры, хоць на Ўрале, усё роўна, на якой мове гаварыць.

За трыццатыя гады беларуская вёска страціла больш за паўмільёны сваіх жыхароў. Але ня толькі людзкімі ахвярамі вымяраюцца гэтак званыя вынікі «барацьбы зь перанаселенасьцю». У народзе пачала складацца непавага да добрасумленнай сялянскай працы — толькі дзівакі ці зацятыя «камуністы» маглі працаваць у калгасах за працадні. Менавіта ў гэтыя часы быў пакладзены пачатак галоўнай тэндэнцыі ўсіх наступных дзесяцігодзьдзяў — моладзь, каб знайсьці сваё шчасьце, павінна была зьехаць зь вёскі. І да сёньняшняга дня гіранічна — непаважліва гучыць слова «калхозьнік».

Працэс зьнішчэньня беларускага сялянства працягваўся і надалей. Замест хутароў, у 60-70-я ліквідавалі ўжо цэлыя «непэрспэктыўныя» вёскі. Больш маштабнымі былі і вэрбоўкі на чарговыя «будоўлі сацыялізму»: трэба было адбудоўваць разбуранае ў вайну, пасьля даганяць і пераганяць Амэрыку... Цяжар трагедыі мінулай гісторыі нашай краіны ня зьнікне ў адначасьсе, яшчэ доўга давядзецца адчуваць той цяжар у будучым.

# ПАКАЗАЛЬНІК АСОБАЎ

# ПРАДМЕТНА-ГЕАГРАФІЧНЫ ПАКАЗАЛЬНІК

архіўная сэрыя

Архіў Найноўшае Гісторыі
Modern History Archive

Тацяна Процька

# ВЫНІШЧЭНЬНЕ СЯЛЯНСТВА

*Вёска Ўсходняй Беларусі пад цяжарам бальшавіцкіх рэпрэсіяў 30-х гадоў*

БГАКЦ (Беларускі Гуманітарны Адукацыйна-Культурны Цэнтар).
Ліцэнзія № 209, выдадзеная 11.02.1998 г.
Вуліца Кірава 21, Менск 220050 Беларусь.

Падпісана да друку 30.06.1998. Фармат 84 x 119 (1/32).
Папера афсэтная. Гарнітура Baltica.
Друк афсэтны. Ум.-др. арк. 6,7. Наклад 300 асобнікаў.

Замова № 126 Друкарня ААТ «Беллегпромпроект»,
220028, Менск, вул. Маякоўскага, 111. ЛП № 192.

**Extermination of Peasantry.**
**Country Region of Eastern Belarus under the Burden of Bolshevik**
Repression by *Taciana Proćka.*

The monograph by Taciana Proćka, researcher (Ph.D.) and Chairman of the Belarusian Helsinki Committee, tells about the destruction of the private ownership and terror against the peasantry in 1930th in that part of Belarus, which belonged to the USSR. Behind the historic description of facts there lies the conflict of interests, those of the Bolshevik regime, which forced the use of repression, and a private person, in which the latter was doomed to be defeated.

The book is written on the basis of documents taken from the former Archive of the Central Committee of the Communist Party of Belarus, Belarusian KGB Archive and Central Archive of the Federal Security Service of the Russian Federation.